Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4864) 1 красавіка 2016 г.



# З надзеяй уваскрэсення

## Ніл Гілевіч

*У гэты век,*
*што адвучыў*
*маўчаць,*
*У кожным*
*абудзіўшы сверб*
*размовы,*
*Я веру*
*у няcказаныя словы,*
*Якім, магчыма,*
*і не прагучаць.*
*Дзівак, наіўны,*
*смешны, як дзіця,*
*Я веру ў іх,*
*як веруючы —*
*ў догмы.*
*І гэтай веры*
*хопіць мне надоўга.*
*Ва ўсякім разе —*
*да канца жыцця.*

1972 г.

**Чытайце на стар. 3**



*Фота Яўгена Пясецкага.*

Чырвонае шалупінне ля пад'езду: нехта ўжо дачакаўся. Сімвалы — напамін пра бессмяротнасць душы — яны адны і тыя ж два тысячагоддзі. Словы штогод аднолькавыя, самыя жаданыя для вернікаў. Каталікі і пратэстанты Беларусі ўжо пацвердзілі: «Сапраўды ўваскрос!» За гэтымі словамі знікае страх. Але ўзнікае адказнасць — за сваё, зямное. За тое, якім словам верым, якія прамаўляем. Час такі імклівы, што выпадковыя словы наогул не вартыя ўвагі.

У велікодным віншаванні беларускім каталікам Архіепіскапа Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, ёсць такія: «…Крыжовая смерць Ісуса — гэта не канец, але пачатак. Гэта толькі пункт часовага затрымання, як быццам аўтобусны прыпынак. Як пасля прыпынку аўтобус едзе далей, таксама і Хрыстус сваёй боскай моцай не спыняецца і працягвае дзейнічаць. З намі ёсць Бог Любові, які так палюбіў свет, што аддаў свайго Сына, каб нас збавіць. Таму слова «любоў» з'яўляецца ключавым словам Пасхальнай таямніцы. На яе мы пакліканы адказаць падобнай любоўю, якая павінна праяўляцца ў нашых адносінах да Бога і бліжняга».

Праявай гэтай любові можна лічыць клопат пра тых, каму горш, чым нам, жаданне даць прытулак тым, хто пазбавіўся дома. «Наш кантынент становіцца шматкультурным, так што нават у штодзённы абыход увайшоў тэрмін *мульці-кульці*-грамадства без ясна выражанай рэлігійнай прыналежнасці… У той жа час еўрапейская інтэграцыя павінна паважаць рэлігійную тоеснасць сваіх грамадзян», — адзначана ў святочным пасланні. Архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч павіншаваў братоў па веры, якія ў гэтыя дні адчуваюць радасць уваскрасення Хрыста, і пажадаў праваслаўным братам і сёстрам поспеху ў духоўнай падрыхтоўцы да свята Вялікадня: нам усім разам трэба «супрацоўнічаць у галіне абвяшчэння і абароны хрысціянскіх каштоўнасцяў».

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь «Тэатр-студыя кінаакцёра рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Нацыянальная кінастудыя “Беларусьфільм”» з 35-годдзем творчай дзейнасці. «Высокі прафесійны ўзровень і патрабавальнасць да фарміравання рэпертуару дазволілі вам стварыць шэраг яркіх спектакляў, якія выклікаюць цікавасць шматлікіх гледачоў», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што калектыў і ў далейшым будзе радаваць прыхільнікаў новымі пастаноўкамі, якія папоўняць скарбніцу айчыннага тэатральнага мастацтва.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста Расійскай Федэрацыі Станіслава Гаварухіна з 80-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі Станіслава Гаварухіна ведаюць і цэняць як таленавітага кінарэжысёра, акцёра, сцэнарыста, выдатнага грамадскага і палітычнага дзеяча. «У сваёй творчасці Вы не пакідаеце без увагі самыя вострыя тэмы сучаснасці, выказваеце прынцыповую грамадзянскую і маральна-этычную пазіцыю», — гаворыцца ў віншаванні. «Упэўнены, Ваша плённая дзейнасць і ў далейшым будзе садзейнічаць развіццю і ўмацаванню культурных сувязей паміж народамі Беларусі і Расіі», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ Рэестр археалагічных артэфактаў павінен з’явіцца ў Беларусі. Паводле намесніка старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы Наталлі Кучынскай, гэта прадугледжваецца праектам Кодэкса аб культуры Беларусі, які дэпутаты разгледзяць у другім чытанні на вясенняй сесіі. Прапануецца стварэнне рэестра артэфактаў, якія на 18 сакавіка 2016 года знаходзіліся ў валоданні грамадзян і юрыдычных асоб, і вядзенне ўліку археалагічных аб’ектаў і артэфактаў, што знойдзены пры правядзенні археалагічных даследаванняў і на гэты момант не маюць уласніка.

✔ Заяўкі на XII Нацыянальны конкурс друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Ліцера» прымаюцца да 15 красавіка, паведамляюць у Міністэрстве інфармацыі Беларусі. На конкурс, які праводзіцца па 26 намінацыях, прадстаўляюцца матэрыялы 2015 года. Папярэдні адбор работ правядзе экспертны савет, які фарміруецца міністэрствам. Журы падвядзе вынікі і прыме рашэнне аб пераможцах у кожнай намінацыі не пазней за 25 красавіка. Урачыстая цырымонія ўшанавання пераможцаў і ўручэнне дыпломаў і памятных знакаў-сімвалаў пройдзе 11 мая.

✔ Падчас сустрэчы пасла Беларусі ў Францыі, пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры ЮНЕСКА Паўла Латушкі з галоўным выканаўчым дырэктарам *Euronews* Міхаэлем Петэрсам разгледжаны пытанні пашырэння ўзаемадзеяння паміж Беларуссю і *Euronews*. У прыватнасці, абмеркаваны перспектывы рэалізацыі сумесных праектаў і магчымасці прадстаўлення нашай краіны на адным з вядучых тэлеканалаў Еўропы.

✔ VI Міжнародны культурны фестываль «Кветкі Расіі» арганізуе ў Мінску Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі з 27 красавіка па 7 мая, паведамілі ў Міністэрстве культуры Беларусі. У праграме фестывалю — гала-канцэрт класічнай музыкі ў выкананні юных талентаў Расіі, спектакль Екацярынбургскага тэатра юнага гледача, круглы стол, выстаўкі лялек-марыянетак, дзіцячага малюнка, майстар-класы па акцёрскім майстэрстве і класічным танцы.

## Фестываль

# Творчасць ва ўнісон

**Многія музыканты чакалі вясну з заміраннем сэрца — нарэшце з’явілася магчымасць выказацца з вялікай сцэны, заявіць пра сябе, падзяліцца назапашаным натхненнем. На працягу цэлага месяца, з 1 па 29 красавіка, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі пройдзе Міжнародны форум маладых музыкаў «Мінская вясна — 2016». У гэтым сезоне праграма стане яшчэ больш насычанай і маштабнай, аб’яднае 26 канцэртаў ад таленавітых майстроў з усяго свету — прычым, як камернай, сімфанічнай, вакальнай, так і фальклорнай, джазавай музыкі.**

Адкрые форум праект «Мандалінісіма», ініцыятарам якога выступае беларускі музыкант Мікалай Марэцкі, а ўдзельнікамі — віртуозы гітарнай і мандалiннай музыкі з Беларусі, Францыі, Калумбіі, Венесуэлы. Хор студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры харавога дырыжыравання Інэсы Бадзяка прадставіць праграму, прысвечаную харавым старонкам Балтыі ХХ стагоддзя. Маладыя таленты з БДАМ, лаўрэаты прэстыжных конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі таксама заявяць пра сябе падчас канцэрта «Вечар кансерваторыі». Яркая рыса форуму — абмен вопытам паміж музыкантамі маладога і старэйшага пакаленняў, тымі, хто толькі дэбютуе, і тымі, каго ўжо добра ведаюць.

З прэзентацыяй апошняга альбома «*Spark of Life*» ў Мінск прыедзе трыа Марціна Васілеўскага, аднаго з самых вядомых джазавых піяністаў Польшчы. У ліку беларускіх прэм’ер — сачыненне сучаснага кампазітара Паўла Карманава «Падарунак самому сабе на дзень нараджэння».

З Санкт-Пецярбурга і Масквы ў сталіцу Беларусі прыедуць арганіст Міхаіл Мішчанка і акцёр, рэжысёр, харэограф Філіп Каплан. Музыка Баха зліецца з радкамі Байрана, Уайльда і іншых брытанскіх геніяў. Фрагменты з іншага манументальнага твора — оперы В.А. Моцарта «Ідаменэй, цар Крыта» прагучаць у выкананні ансамбля «Камерныя салісты Мінска» і Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь.

З расійска-беларускай праграмы вылучаецца выступ заслужанага артыста Расіі, прафесара Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П. Чайкоўскага віяланчэліста Кірыла Родзіна з ансамблем «Маладыя віяланчэлісты Мінска». «Поры года» Чайкоўскага і «Поры года ў Буэнас-Айрэсе» П’яцолы слухачы змогуць ацаніць дзякуючы трыа «*Nouvelle Philharmonie*», у складзе якога — скрыпач Арцём Шышкоў, віяланчэліст Дзіма Цыпкін, піяніст Сяргей Смірноў. Такім чынам, маладыя, але ўжо прызнаныя музыканты, многія з якіх з’яўляюцца выпускнікамі БДАМ, таксама возьмуць удзел у форуме. Сярод іх — лаўрэаты міжнародных конкурсаў піяністы Міхаіл Ялецкі і Віталь Стахіевіч, гітарыст Павел Кухта.

Міжнародны форум маладых музыкантаў “Мінская вясна — 2016” — гэта не проста чарада канцэртаў, а пляцоўка для абмену вопытам. Творцы з вялікім прафесійным стажам будуць дапамагаць маладому пакаленню падчас майстар-класаў у Акадэміі музыкі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Музыка, якая аб’ядноўвае

Пяць год таму Арганізацыя Аб’яднаных Нацый па пытаннях культуры ўключыла Дзень джаза ў свой міжнародны каляндар. Адзначаць гэту падзею і ў Мінску. Пасольства Румыніі ў Беларусі сумесна з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй падрыхтавалі канцэрт, які адбудзецца 7 красавіка ў вялікай зале.

Прыемным і адказным момантам стане тое, што беларуская публіка першая ў свеце пачуе новае сачыненне — джазавую сімфонію «*Jazz Ecumenica*» румынскага кампазітара і піяніста Флорына Радукану. Ён сам выступіць у якасці саліста. Флорын Радукану шырока вядомы ў Румыніі і за яе межамі сваёй кампазітарскай дзейнасцю, а таксама віртуознай гульнёй на фартэпіяна, якая поўна раскрылася ў джазавым стылі. У канцэрце прыме ўдзел музыкант-віртуоз Даліла Чарнатэску, якая грае на пан-флейце.

Яна грала са знакамітымі музыкантамі і аркестрамі ўсяго свету, удзельнічала ў многіх міжнародных конкурсах, у тым ліку акампаніравала нямецкай выканаўцы Ангеле Бідль на Еўрабачанні ў 1996 годзе.

Альбом Даліла Чарнатэску «*Revealing the Romanian Traditional Music on Jazz*», што ў перакладзе азначае «Захаванне румынскіх музычных традыцый у джазе», у 2011 годзе быў прызнаны альбомам года ў Румыніі. Флорын і Даліла на сцэне Беларускай філармоніі выступяць разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава. Вакальныя партыі выканае Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы.

Куратар праекта з боку пасольства Румыніі спадарыня Надзія Машану адзначае: «Джаз — гэта музычны напрамак, асновай якога з’яўляецца імправізацыя. Дзякуючы гэтаму бесперапынны працэс перапляцення музычных стыляў і музык народаў свету стварае дыялог, становіцца мовай міжнародных зносін, дорыць свабоду творчасці і спрыяе сціранню культурных адрозненняў».

**Юлія КАРДАШ**

# Расшыфраваць аўтарскую ідэю

**Прапануе выстаўка карыкатур Алега Карповіча «Беларусь. Мінск — Мір». Яе падрыхтавалі ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь да 1 красавіка.**

Некалькі год запар Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь разам з Выдавецкім домам “Звязда” і часопісам сатыры і гумару «Вожык» актыўна прадстаўляюць мясцовых карыкатурыстаў, акцэнтуюць увагу на своеасаблівай стылістыцы беларускай карыкатуры і тэмах айчынных творцаў.

Сёлета на выстаўцы чарговую серыю работ прадставіць беларускі масак Алег Карповіч, у пачуцці гумару якога сумнявацца нельга, бо не адзін год на палосах выдання «СБ — Беларусь сегодня», дзе творца працуе мастаком і аглядальнікам, з’яўляюцца яго карыкатуры і шаржы. Алег Іванавіч цікавы тым, што ў рабоце дэманструе сінтэз гумару з філасофскімі складнікамі. Ён не паказвае гэта адкрыта, а, наадварот, спрабуе захапіць гледача прапановай расшыфраваць аўтарскі падтэкст, галоўную ідэю.

На выстаўцы экспануюцца работы карыкатурыста, насычаныя асаблівай, вясновай энергетыкай: творы, не пазбаўленыя нацыянальнага каларыту, і арыгінальна стылізаваныя шаржы.

Карыкатура — цікавы жанр мастацтва, які з’яўляецца асноўнай формай выяўленчай, графічнай сатыры. Не трэба ставіцца да яе павярхоўна, думаць, што ў аснове толькі праставатыя, вясёлыя малюнкі. Ва ўсе часы існавання карыкатура адлюстроўвала важныя ідэі грамадскай, палітычнай і бытавой дзейнасці, часам у выніку характэрнай ёй рэзкасці правакавала маштабныя скандалы і нават трагедыі. Гэты жанр мастацтва скіраваны не толькі на асуджэнне заган чалавецтва, ён ахоўвае грамадскую мараль, апявае герояў і годных ўчынкі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Запрашае кніжны фестываль

Правесці час у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі можна не толькі карысна, але і весела — асабліва калі завітаць туды ў Дзень смеху. 1 — 2 красавіка ў Мінску пройдзе гарадскі кніжны фестываль «Горад і кнігі. Навука», дзе адбудзецца шмат цікавых сустрэч, майстар-класаў і кніжных спектакляў. Большасць мерапрыемстваў разлічаны на дзяцей і моладзь, таму наведванне фестывалю будзе выдатным сямейным адпачынкам.

Гасцей чакаюць дзіцячая і моладзевая пляцоўкі, зона майстар-класаў і гучных чытанняў, экспазіцыя, прысвечаная навуковым арганізацыям і творчым аб’яднанням. Для бацькоў, настаўнікаў і бібліятэкараў будзе працаваць «Экспертная пляцоўка», дзе адбудзецца абмеркаванне актуальных «кніжных» пытанняў. Разынка фестывалю — навуковыя эксперыменты і інтэрактыўныя заняткі па хіміі, біялогіі, прыродазнаўстве ад *Ximikids* і дзіцячай навуковай студыі «Экалабараторыя». На майстар-класах можна будзе зрабіць прыемны напамінак пра фестываль, а таксама даведацца пра тое, як палепшыць стан старой кнігі альбо лёгка і проста навучыць дзяцей чытаць.

Наведвальнікаў свята чакае безліч сюрпрызаў — ад картоннага горада, дзе жывуць героі сучаснай літаратуры, да двухметровага робата-трансформера (хіба таксама з кніг?). Уваход на мерапрыемства вольны, а праграма фестывалю змешчана на сайце *zachtenie.by.*

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# З узнагародай!

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ сардэчна віншуюць свайго калегу — паэта, перакладчыка, скульптара, мастака, кампазітара і выканаўцу песень Хізры Асадулаева з высокай урадавай узнагародай Рэспублікі Дагестан. Члену Саюза пісьменнікаў Беларусі, Саюза музычных дзеячаў і Беларускага саюза мастакоў Хізры Асадулаеву нададзена ганаровае званне «Заслужаны мастак Дагестана».

Дарэчы, многія скульптуры гэтага вядомага дзеяча культуры ўпрыгожваюць і беларускія гарады, у тым ліку сталіцу.

Новых творчых удач, шаноўны Хізры Газіевіч!

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**



**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні ў сувязі са смерцю народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча яго родным. «Творчасць Ніла Гілевіча блізкая чытачам розных пакаленняў і па праве займае асаблівае месца ў айчыннай літаратуры. У яго паэзіі знайшлі адлюстраванне высокія маральныя ідэалы, любоў да Радзімы, павага да народа», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што памяць пра Ніла Гілевіча як аднаго з яркіх майстроў слова захаваецца ў сэрцах прыхільнікаў беларускай літаратуры.**

*«Я — беларус, я ганаруся,*
*Што маю гэтае імя…»*

**Лірык, перакладчык, публіцыст, літаратуразнаўца, фальклярыст… Гэта — Ніл Гілевіч. Навуковец, прафесар, выкладчык … І гэта — Ніл Сымонавіч. Дадаць можна шмат: пра вялікі талент, пра грунтоўныя дасягненні, пра шматлікія ўзнагароды, сярод якіх ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Дружбы народаў, медаль Францыска Скарыны. А можна сказаць зусім коратка. Народны паэт Беларусі.**
**Як кожны чалавек мае дарагую сэрцу мару, так кожны творца — дарагую сэрцу тэму. Для Ніла Гілевіча такая тэма, безумоўна, Беларусь. Яго вершы — гімн Айчыне, яго творчасць — малітва за яе. Для яго няма малой ці вялікай радзімы. Ёсць агульная — Беларусь.**

# «Тэстамэнт...» Гілевіча

*Аптымісты мы, відаць, па духу,*
*Калі ў вечнай з лёсам барацьбе*
*Ухітраемся свой сум і скруху*
*Абярнуць у радасць для сябе.*
*Нераспешчаныя ўшчэнт дарамі,*
*Часам нават і балючы ўдар*
*Мы прымаем не як пакаранне,*
*Не як помсту лёсу, а як дар.*

*1970 г.*

Ніл Гілевіч — гэта прыклад беларуса-аптыміста. Ён ім быў, можа, не столькі па настроі, з якім жыў, а паводле спраў, за якія браўся. Здаваліся непад'ёмнымі. Але трэба рабіць — калі ласка... Гэта не столькі пра творчасць, паэзію і кнігі. Яго прыклад сведчыць якраз пра тое, як творца з вершамі і кнігамі можа пераўтвараць свет вакол сябе. Таму што Гілевіч ствараў краіну. Яна была ў яго свядомасці асобным светам, калі наогул пра асобнасць не магло быць гаворкі. У Саюз пісьменнікаў СССР яго прынялі ў 1954 годзе. Але ўжо тады ён верыў, што, каб зразумець іншых, спачатку трэба зразумець сябе. І пісаў пра сваё спрадвечна-песеннае-неспакойнае. Дзе з думкамі пра тое, што будзе, ён скіроўваўся туды, што мінула, было і забыта. Памяць і ёсць ключ да будучыні. Ад яе не пазбавіцца — вось што дзіўна. Ад таго водару, што ўласцівы роднай вясковай хаце, ад гукаў, якімі гаворыць з намі зямля, па якой хадзілі малымі басанож. Няма дробязей, кожная дэталь стварае карціну радзімы.

А ў яго склалася наогул панарама. Яшчэ і таму, што паглыбляўся ў фальклор, насіў у сабе трапныя вобразы і слоўцы. І тых, хто словамі імкнуўся распараджацца па-свойму, адзначаў як адметных асоб з ліку творцаў: яго кандыдацкая дысертацыя была прысвечана гісторыі беларускай паэзіі XX стагоддзя («маладнякоўскаму» перыяду). Да пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў жыцці Ніла Сымонавіча быў перыяд жыцця паэта, навукоўца. Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы, праца сакратаром у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, кнігі… Далей прафесар, заслужаны дзеяч навукі, ён прыйшоў да таго, што трэба аддаваць. І ўсе ўбачылі іншага Гілевіча. Грамадзяніна.

Пры ўсіх шматлікіх пасадах, якія яму даваліся займаць, Ніл Сымонавіч не губляў адчування, што стварае. Творчасць набыла новае выяўленне. Падчас працы дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР узнікла іншая нагода ствараць: Рэспубліку Беларусь. І каб гэтая краіна ўзнікла на карце, яшчэ ў час СССР, Гілевіч быў кіраўніком працоўнай групы па распрацоўцы Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» (потым ён яшчэ ўзначаліць грамадскую арганізацыю «Таварыства беларускай мовы»). Першы крок да таго, каб замацаваць асобную культуру, якая дае аснову дзяржаўнаму будаўніцтву.

Аказалася, гэта рэальна. Падмурак — ёсць. І людзі, якія сталі свайго роду рухавікамі. Краіна ўзнікла. З думак і спраў, з галасоў і дыскусій. З актыўнасці і неабыякавасці асоб, якія ведалі, якая сіла насамрэч стаіць за культурай. З 1990 па 1995 гады Ніл Гілевіч з'яўляўся старшынёй Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Гэта той час, калі грамадства, складзенае з асобных індывідуумаў, што пачалі губляцца ў прасторы, падыходзіла да той рысы, пасля якой яму неабходна стаць народам са сваёй прасторай. Тады, здавалася, гэта складана і доўгі шлях наперадзе. «Дойдзем», — запэўніваў Гілевіч як творца, разумеючы, што ўсё ў руках таго, хто робіць. Вось што значыць у яго выпадку народны паэт Беларусі: дапамагае народу знайсці надзею. Іншыя падхоплівалі — але ж было каму падхапіць і ісці з думкай пра сваю краіну далей. Яна ёсць, значыць, ідзём…

*Усё ў чалавеку, што робіць яго Чалавекам:*
*І памяць, і клопат надзённы, і мараў разбег.*
*Таму і не проста яго зразумець, што ў сабе*
*Сучаснасць ён лучыць з мінулым і будучым векам.*
*Як дрэва карэннем у доле, у сховах нябачных,*
*Лістотай у сонцы, насенням — у заўтрашнім дні, —*
*Таксама і ён: да жыцця паўстае з глыбіні,*
*Каб сцвердзіць сябе і застацца ў нашчадках удзячных.*

*1973 г.*

**P. S. Ніл Сымонавіч Гілевіч будзе пахаваны на Кальварыйскіх могілках 1 красавіка.**

## Слова на развітанне

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны вялікай страты. На 85-м годзе жыцця не стала народнага паэта Беларусі, выдатнага педагога, вучонага, актыўнага грамадскага дзеяча Ніла Сямёнавіча Гілевіча.

Шмат хто з тых, каму пашчасціла слухаць лекцыі Ніла Гілевіча на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, на ўсё жыццё запомнілі шчаслівыя часіны чароўнай беларускай вуснай народнай творчасці — вытоку нашай літаратуры.

Усё жыццё паэта было прасякнута непадробнай любоўю да нашай роднай Беларусі, яе народа, літаратуры, мовы, культуры. У якасці дэпутата Вярхоўнага Савета 11-га склікання ён быў адным з ініцыятараў прыняцця Закона аб мовах. У Вярхоўным Савеце 12-га склікання ўзначальваў Камітэт па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

Працяглы час паэт быў старшынёй Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

Дзе б ні працаваў Ніл Сямёнавіч Гілевіч, ён самаахвярна аддаваў фізічныя і духоўныя сілы справе сумленнага служэння Народу і Радзіме.

Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім паэта.

Упэўненыя, што духоўная спадчына Ніла Гілевіча будзе доўга служыць пакаленням нашых суайчыннікаў.

**Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы глыбока смуткуе з прычыны смерці народнага паэта Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Ніла Гілевіча і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім паэта. Яго жыццё — прысвячэнне Бацькаўшчыне, роднай мове і свайму народу. Многія гады Ніл Сымонавіч быў рупліўцам на ніве захавання спадчыны Янкі Купалы і з'яўляўся сябрам Купалаўскага музея.

Ганарымся, смуткуем, памятаем.

## Дайджэст

• Адбор на прэстыжную японскую літаратурную прэмію прайшла кніга, напісаная ў сумесным аўтарстве чалавека і робата. Літаратурная прэмія *The Nikkei Hoshi Shinichi Literary Award* (у гонар Хошы Шынічы, выбітнага японскага фантаста, аўтара раманаў «Мудрагелісты Робат» і «Віншаванні з Космасу») заснавана для заахвочвання лепшых твораў у жанры нон-фікшн. Сёлета на суд журы ў ліку конкурсных работ былі прадстаўлены чатыры рукапісы, часткова напісаныя праграмай штучнага інтэлекту. Адна з іх прайшла адборачны этап і была адзначаная як магчымы кандыдат у фаварыты конкурсу. Працэнт чалавечага ўдзелу ў аўтарстве рамана склаў прыблізна 80%, за камп'ютарам заставалася ў асноўным тэхнічная частка працы. Людзі стваралі ідэю, распрацоўвалі сюжэтную лінію і характары герояў, затым уводзілі дадзеныя ў камп'ютар, які на іх аснове паспяхова пабудаваў цэласны твор. Камітэт прэміі не раскрывае назвы кнігі, якая прайшла адборачны этап, аднак паведамляе, што адна з іх носіць лёсавызначальнае найменне «Дзень, калі Камп'ютар напісаў раман».

• У Маскве з'явілася новая радыёстанцыя пад назвай «Кніга». Сваё прызначэнне яна бачыць у тым, каб знаёміць слухачоў і патэнцыяльных чытачоў з самымі значнымі падзеямі і з'явамі ў свеце літаратуры, распавядаць пра пісьменнікаў і іх творчасць, знаёміць з кніжнымі навінкамі. Па словах галоўнага рэдактара радыёстанцыі Ягора Сярова, ідэя заснаваць такое СМІ агучвалася неаднаразова, але рэалізаваць яе на практыцы атрымалася толькі цяпер. Бо разлічваць на «Кнігу» як на бізнес-праект наўрад ці варта, таму вырашальную ролю адыгралі энтузіясты. Адгукнуліся на прапанову аб супрацоўніцтве і выдавецтвы, якія выпускаюць аўдыякніжкі. Ягор Сяроў спадзяецца, што радыё «Кніга» не заменіць для людзей друкаваныя выданні, а паслужыць чымсьці накшталт компаса ў свеце літаратуры. Радыё прэтэндуе на ролю неназойлівага, але эрудыраванага суразмоўцы.

• Асабістыя лісты Харпер Лі выставілі на аўкцыён. На таргі патрапіла перапіска аўтара са сваімі сябрамі і прыхільнікамі. Пачатковы кошт кожнага з іх складае $ 750. Пры гэтым варта адзначыць, што пісьменніца ніколі не была публічным чалавекам. Апошняе з яе нешматлікіх інтэрв'ю прэсе датаванае 1964 годам. І цяпер, праз шэсць тыдняў пасля смерці Харпер Лі, 29 вельмі асабістых лістоў, адрасаваных Дорыс і Білу Ліпардам, а таксама прыхільніку яе таленту Доне Сондэрса, выстаўляюцца на аўкцыён. У некаторых з іх пісьменніца скардзіцца на сваё здароўе, у іншых іранічна дзеліцца ўражаннем пра размову з агульнымі знаёмымі. Самы цікавы ліст, на думку аўкцыянераў, датаваны 25 жніўня 1990 года. У ім аўтар разважае пра тое, што «адна з самых складаных рэчаў у свеце (і асабліва гэта тычыцца паўднёўцаў) заключаецца ў тым, каб у разгар сацыяльнай рэвалюцыі ствараць работы даўгавечнай каштоўнасці, якія б адлюстроўвалі рэвалюцыю».

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці доктара філалагічных навук, заслужанага работніка адукацыі Рэспублікі Беларусь, вядомага паэта, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіля Іванавіча РАГАЎЦОВА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

# Сонечна і лірычна




Моцная празаічная частка і паэзія, якая падштурхоўвае да невясёлых разваг (за выключэннем вершаў Юрыя Сапажкова ў перакладах на беларускую), — такі атрымаўся № 3 «Полымя».

Развагі гэтыя звыкла зводзяцца да размежавання паняццяў: апісальнасць, заключаная ў вершаваную форму, і творчасць, не падпарадкаваная версіфікатарскім схемам. Апошняя — нешаблонная, яна сама стварае сімвал, вобраз, знак, а не карыстаецца ўжо гатовымі «загатоўкамі», якія некалі і маглі ўсхваляваць чытача, а цяпер уяўляюцца такімі сабе літаратурнымі сталактытамі. Юрый Сапажкоў (калі вы сустракаліся з ім) — вельмі мяккі, ціхі чалавек. Здавалася, што і голас яго не можа быць гучным. У вершах, тым не менш, якраз гучыць! Ён пазнавальны сам па сабе, як аўтар, але прыкрага пазнавання ў саміх творах (маўляў, гэтае апісанне вясновай раніцы я ўжо недзе бачыў) няма.

Асобная тэма — інтымная лірыка, эрас у паэзіі. Сціплы беларускі паэт са стажам, падыходзячы да гэтае тэмы, нярэдка трапляе ў недарэчную сітуацыю. Імкнучыся да разняволенасці (каб не адстаць ад маладых? каб давесці, што можа пісаць і пра жарсці, не толькі пра вясковае дзяцінства?), гэты гіпатэтычны паэт губляе адчуванне ўмоўнай «мяжы» — паміж востра-пачуццёвым і вульгарным. Але не Юрый Сапажкоў. Як і многія, ён любуецца жанчынай, яе фізічным харастовам, але не на ўзроўні грубай канстатацыі: гэта надзвычай тонкае пачуццё, падуладнае не інстынкту, але хараству — увогуле.

У прозе «Полымя» гэтым разам пануюць жанчыны, і як гераіні, і як аўтары. І наймацнейшай аказалася Наталія Касцючэнка. Магчыма, ад банальных расповедаў пра пакручасты жаночы лёс яе ўратавала ўдала абраная форма — эсэістычная прамова, і як прыклад да «тэарэтычнай выкладкі» — караценькі аповед-ілюстрацыя. Цікавае супадзенне: з лірыкай Юрыя Сапажкова яе прозу лучыць спакойная інтанацыя, якая падкрэслівае шчырасць аўтара, без манернічання, без жадання спадабацца чытачу ці падкупіць яго знарочыстай простасцю, без жадання выціснуць у яго скупую слязу нешчаслівай гісторыяй героя.

**Наста ГРЫШЧУК**

***




У сакавіцкіх нумарах часопісаў абавязкова павінна быць нешта мілае жаночаму сэрцу, і «Нёман» у гэтым сэнсе не выключэнне. У трэцім нумары распачынаецца праект Зінаіды Краснеўскай «Пантэон жаночых сэрцаў», прысвечаны «выдатным, таленавітым і нават геніяльным жанчынам», пра творчасць якіх перакладчыца з задавальненнем нагадае чытачам. Наперадзе яшчэ адзінаццаць тэкстаў, а гераінямі першага нарысу сталі мадам дэ Сэвіньє і мадам дэ Лафает. Першая атрымала вядомасць дзякуючы сваім лістам, другая — дзякуючы раману «Прынцэса Клеўская». Эсэ сталага аўтара «Нёмана» прывабяць чытачоў, якія любяць чытаць пра выкшталцоныя рэчы і цэняць элегантны стыль.

Часопіс таксама запрашае ў свет узнёслай і шчырай, экстравагантнай і эпатажнай жаночай паэзіі. Ірына Карэліна і Валянціна Абаніна згадваюць гісторыі непадзеленага кахання ды распавядаюць пра сябе загадкавых, Ганна Мартынчык звяртаецца да сферы духоўнага жыцця і разважае пра боскую волю.

У гэтым нумары завяршаецца раман Леаніда Левановіча «Бесядзь цячэ ў акіян». Час дзеяння твора — 1980 год. З першай старонкі раман інтрыгуе імем Пятра Машэрава, які загінуў у гэтым годзе. Героі займаюць адказныя дзяржаўныя пасады, абмяркоўваюць смерць першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі і нават прысутнічаюць на яго пахаванні. Здаецца, сюжэтная лінія магла б развівацца, героі высветлілі б новыя акалічнасці трагічнай падзеі, але аўтар не наважваецца ісці так далёка. Замест дэтэктыўнага рамана чытач атрымлівае панараму сацыяльна-палітычнага жыцця, для якой выкарыстоўваюцца урыўкі з хронікі БелТА і ТАСС.

Пісьменнік звяртае ўвагу на праблемы ў сферы кіравання тагачаснай краінай, нагадвае, што між чыноўнікамі і партыйнымі функцыянерамі былі вельмі розныя людзі, у тым ліку шчырыя і сумленныя. Але апублікаваны твор — гэта хутчэй подступы да тэмы, чым аптымальны падыход да раскрыцця цікавых аўтару праблем.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

***




Веснавым, сонечным і маладзевым атрымаўся сакавіцкі нумар «Маладосці», не згубіўшы пры гэтым якаснай літаратуры. Знайшлося месца і для новых імёнаў, і для такіх вядомых паэтаў, як Віктар Шніп і Рагнед Малахоўскі. Не менш цікава паназіраць, як у адным творцы спалучаюцца адразу паэтычны і празаічны талент. Гаворка ідзе пра Таццяну Кіявіцкую, якая прадставіла на суд чытачоў нізку вершаў «Дыялог маналогаў» і апавяданне «Раманава кніга». Па адукацыі Таццяна філолаг, піша рэкламныя сцэнарыі для радыё, марыць паўдзельнічаць у напісанні кінасцэнарыя і пабываць у Новай Зеландыі. Прадстаўленая падборка вершаў незвычайная: яна нібыта створана не Таццянай Кіявіцкай, а лірычнымі героямі не празаічнага твора «Раманава кніга». Зрэшты, вы маеце магчымасць прачытаць у адным часопісе і вершы, і апавяданне, на падставе чаго зрабіць высновы.

Музычнасці першаму веснавому нумару дадаў артыкул «Духавыя з гісторыяй і сакральным сэнсам». Інструменты, пра якія ідзе размова, пабачылі свет у сценах Белдзяржуніверсітэта. Частка дуд была рэканструяваная, а некаторыя зроблены па матывах старых фотаздымкаў. Захоўваць традыцыі і эксперыментаваць, распрацоўваць эскізы і сваімі рукамі ствараць інструменты — усё пералічанае супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, навуковец-даследчык усходнееўрапейскіх дуд Аляксандр Сурба называе даволі сціпла — навуковая рэканструкцыя. Насамрэч гэта свайго роду цуд, важная, вартая праца.

З нумара ў нумар не перастае радаваць рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. У сакавіцкай «Маладосці» — апавяданні Марка Твена! І хоць не валодаю мовай як прафесійныя перакладчыкі, мне падалося, што яны здолелі захаваць стыль, тонкую іронію і гульню слоў.

Ну і на «салодкае» — цыкл навукова-фантастычных апавяданняў «Расследаванні інспектара Сарвы» ад маладога брэсцкага празаіка Сяргея Белаяра, а ў творчых планах — заканчэнне фантастычнага рамана-баевіка пра барацьбу Дабра і Зла, якая разгортваецца ў сучасным Брэсце. Пакуль жа можна з задавальненнем пачытаць таленавітую малую прозу рэдкага для сучаснай беларускай літаратуры жанру.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Таямнічае знікненне на Марсе

**Прайшло амаль 80 гадоў з напісання Аляксеем Талстым фантастычнага рамана «Аэліта» пра падарожжа зямлян на Марс. З тых часоў шмат чаго памянялася: чалавек скарыў космас, пабываў на Месяцы і рыхтуецца да каланізацыі Марса — насамрэч. Таму навукова-папулярныя жанры літаратуры па-ранейшаму карыстаюцца попытам сярод чытачоў.**

Вось і малады брэсцкі празаік Сяргей Белаяр напісаў цыкл апавяданняў «Расследаванні інспектара Сарвы» пра далёкую (а можа, і не вельмі) будучыню, калі чырвоная планета, ужо каланізаваная зямлянамі, пакуль што не раскрыла ўсіх таямніц.

Апавяданні Сяргея Белаяра — своеасаблівы мікс навуковай фантастыкі, дэтэктыва і прыгодніцкай літаратуры. Вось вам касмічны Шэрлак Холмс! На далёкай планеце адбылося таямнічае знікненне, і з-за асаблівасцей светапогляду і сацыяльнага ўкладу марсіян ім давялося для расследавання выклікаць чалавека з Зямлі. Так завязваецца сюжэт. Але захапляе зусім не дэтэктыўная лінія — ёсць гісторыі і лепш. Прыкладам, мяне больш зацікавіла апісанне сацыяльных асноў будучыні, жыхары планет, іх адрозненні і неразуменне адзін аднаго. Нягледзячы на малады ўзрост аўтара, у апавяданнях ужо адчуваецца стыль. Дынамічны сюжэт, рванае апавяданне, мудрагелістая канцэпцыя грамадства будучыні, паранаідальная атмасфера, адсутнасць уступнай часткі — чытач рэзка акунаецца ў свет твора, спасцігаючы сутнасць таго, што адбываецца, па меры развіцця падзей.

Сяргей Белаяр з самага пачатку закідвае нас велізарнай колькасцю тэрмінаў, тэхналогій, канцэпцый і ідэй, многія з якіх згадваюцца неяк мімаходзь і развіцця пасля не атрымліваюць. Падчас чытання «Расследаванняў інспектара Сарвы» адчуваеш сябе канатаходцам, які балансуе на тонкай нітачцы асноўнага сюжэта. Крок налева, крок направа — і правальваешся ў бездань думак, ідэй, пасля чаго ўсведамляеш, што прайшло паўгадзіны, а ты ўсё на той жа старонцы. Хутка чытаць гэтыя апавяданні нельга, таму што сучаснае ўяўленне сусвету проста не дазваляе ўспрыняць настолькі фантастычную інфармацыю, так што яму ў літаральным сэнсе час ад часу патрабуецца перазагрузка. А можа, тэкст разлічаны на падрыхтаванага чытача, з тэхнічнай адукацыяй ці хаця б мінімальнымі навуковымі ведамі? Апавяданні напісаны вельмі займальна, чытаць цікава, разам з тым аўтар закранае мноства праблем, якія непазбежна ўзнікаюць тады, калі навукова-тэхнічны прагрэс пачынае апярэджваць духоўнае развіццё.

Што да мінусаў, то, як мне падалося, не да канца раскрыты персанажы — пра некаторых немалаважных герояў увогуле распавядаецца ўрывачна, нібы мімаходзь. Тое ж самае можна сказаць і пра сюжэт: пісьменнік часам упускаў ключавыя моманты, апісваючы нязначныя дробязі. Але ўсё ж такі варта адзначыць, якая велізарная праца праведзена: аўтару даводзілася глядзець з розных бакоў на змест свайго рамана і, напэўна, было цяжка ўтрымацца, каб не пусціцца ў суцэльныя тлумачэнні.

Калі апавяданні толькі пачалі захапляць і зацягваць мяне як чытача, яны… скончыліся! Прыйдзецца чакаць працягу ў наступным нумары «Маладосці».

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Няправільная жанчына

**Падаецца, у прозе Уладзіміра Мажылоўскага галоўнае нават не гістарычны антураж. І калі і можна называць яго творы гістарычнымі, прыкладам, новае апавяданне «Яд у сэрцы», надрукаванае ў сакавіцкім «Полымі», дык толькі фармальна.**

Не гістарычная дакладнасць ці ўзнаўленне эпохі галоўная мэта У. Мажылоўскага. Прынамсі, у гэтай канкрэтнай часопіснай публікацыі. Галоўнае — гісторыя пра дабро і зло і мараль, якая выпісваецца на двух узроўнях. Першы — уласна апавяданне, сюжэт; другі — казка пра жаночую сварлівасць, «умантаваная» ў дыялог герояў.

І там, і там зло набывае прывабнае жаночае аблічча, канцэнтруецца ў жаночым сэрцы і тым самым робіцца яшчэ страшнейшым. Маўляў, жанчына — яна ж гарант гармоніі ў свеце. Жанчына-забойца — анамалія. Зрэшты, чаму б не задацца пытаннем: ці не з'яўляецца забойства анамаліяй незалежна ад полу таго, хто гэтае злачынства здзейсніў?..

Але так глыбока празаік не сягае. Ён звяртаецца да кантрасту, які будзе зразумелы самаму павярхоўнаму чытачу, — і кантраст спрацоўвае. Кантраст таксама двухузроўневы. Па-першае, самое аблічча Юліі, дэманічнай Ваўчыцы, прыўносіць у душы герояў неспакой: стрыманая, гасцінная, гаспадарлівая дзяўчына, зусім яшчэ маладая, прыгожая — і чорныя вочы, якія гараць агнём нянавісці. Амаль што ледзі Макбет, толькі з большым крымінальным размахам: там — забойствы рукамі мужа і дзеля пэўнай мэты, тут — забойства дзеля забойства і рукамі цэлай банды (насамрэч братоў Юліі — што толькі ўзмацняе трагедыю). Па-другое, дзеля параўнання з гэтым дэманам у спадніцы У. Мажылоўскі ўводзіць вобразы сумленных, пяшчотных жанок, адной з якіх і належыць згаданая раней казка. Нельга сказаць, што гэтыя «правільныя» жанчыны зусім ужо бесхарактарныя. Аднак іх маскулінасць скіроўваецца ў мірнае рэчышча: падтрымка мужа, гаспадарка, на якую патрабуюцца немалыя сілы, смеласць перад тварам смяротнай небяспекі, мудрасць, у рэшце рэшт, без якой і мужчынская кемлівасць мала чаго вартая.

У рэцэнзіі прагучала слова «мараль», і, пэўна, чытач чакае, калі яе агучаць. І ўсё ж правільней сказаць не «мараль», а «пытанне», бо і сам «Яд у сэрцы» — не адказ, а толькі спроба разабрацца ў таямнічай і цёмнай прыродзе зла. Калі зыходзячы з казкі пра жаночую сварлівасць яшчэ можна сказаць нешта пэўнае (гнеў і крыўда робяць чалавека сляпым, ап'яняюць), то ў цэнтральнай гісторыі аповеду ёсць толькі самое пытанне, і аўтар не ведае: штоператварыла дзяўчыну ў лютага звера?..

Сапраўды, што?

**Наста ГРЫШЧУК**

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# «І вясной узыду...»

*Аповесць-эсэ*

**У гэтай рубрыцы мы звяртаем увагу чытачоў на некаторыя творы, якія рыхтуюць да публікацыі нашы літаратурныя часопісы. Сёння ў гасцях «Полымя». Адным з цікавых тэкстаў у красавіцкім нумары часопіса абяцае стаць аповесць-эсэ Міколы Чарняўскага «І вясною ўзыду...». Твор прысвечаны паэту Анатолю Сербантовічу. Чытачы «ЛіМа» маюць унікальную магчымасць першымі скласці чытацкае меркаванне пра новы твор Міколы Чарняўскага: прапануем вашай увазе ўрывак з яго.**



*А над песняю той, недапетай,*
*Прагудзела труба жураўля:*
*«Тых,*
*з кім дзеліцца неба*
*сакрэтам,*
*Маладым забірае зямля».*
**Анатоль Сербантовіч**

## «Вуліца Грамадская, кватэра прыватная...»

Дзякуючы падказцы радыйнага журналіста Анатоля Залеўскага, які ўжо там з сям'ёю кватараваў, кватэра падшукалася даволі хутка і не зусім далёка: за чыгуначным вакзалам, на вуліцы Грамадскай. Не надта шырокая, не ўсюды забрукаваная і асфальтаваная, яна знаходзілася па суседстве са знакамітай вуліцай Прыгожай. Чаму знакамітай? У пасляваенную пару, дый пасля вайны яшчэ, там кватаравалі многія маладыя на той час літаратары. Нават натхніла некаторых, каб ёй прысвяцілі вершы. Таго ж Петруся Броўку, скажам.

Абжыўшыся там трохі, я таксама паспрабаваў «вывесці ў свет», зрабіць здабыткам паэзіі і яе, мала каму вядомую вуліцу Грамадскую. Праўда, нічога сур'ёзнага і вартага людской увагі тады не атрымалася. Радкі, прыдуманыя мною, болей нагадвалі штосьці іранічнае, каламбур, гульню слоў: «Вуліца Грамадская, кватэра прыватная. // Домік — пагляд не адвядзеш, // Ветлівая гаспадыня хатняя // І гаспадар — не менш...»

Цяпер на яе месцы ўзвышаюцца шматпавярховыя камяніцы. Ад былой назвы і паміну не засталося. А ў той час там у зацені яблынь і вішань, груш і сліў гаспадарыў прыватны сектар. Мой новы прыстанак знаходзіўся на другім паверсе акуратнага драўлянага дамка не дужа старой яшчэ пабудовы і болей нагадваў прыбудаваную летнюю мансарду, чым жылы пакой. Але трэба аддаць належнае гаспадарам: рыхтуючы здаваць жытло кватарантам, яны ўцяплілі яго, у халады абагравалі (унізе знаходзілася невялікая кацельная, якою абаграваўся ўвесь дом).

Затое вясной і ўлетку быў сапраўдны рай: у адно акно зазірала голле суседскага сада, у другое — гаспадарова вішня. З двух бакоў «галубятні» акаймоўваў акуратны драўляны балкон. На яго ў пагодлівы дзень можна было нават выйсці і пацешыцца ласкаю сонца, красою навакольных прысядзібных краявідаў, ясным блакітам неба. Калі наведаліся хлопцы ў госці — не маглі ўтрымацца ад спакусы працягнуць руку ў расчыненае акно, сарваць яблык ці колькі вішань, каб прагнаць смагу. Асабліва... назаўтра раніцай, калі не знаходзілася пад рукою піва ці якой газіроўкі. Тады сябры нават зайздросцілі мне: такая рамантыка, такое харство побач! Ці трэба далёка хадзіць, каб прычасціцца глытком паэтычнага натхнення? Што ўсё гэта ўяўлялася менавіта так, праз шмат гадоў прыгадаў Казімір Камейша ў вершы «Акно», не прамінуўшы пазначыць: «Міколу Чарняўскаму»...

*Акно расчынялася ў сад*
*І ціха ўсміхалася лету.*
*І, просячы мёду, аса*
*Кружляла над думкай паэта.*

*Той двор аж стагнаў ад галін.*
*І падаў за шыбаю яблык*
*У бездань шчаслівых хвілін*
*Пад гукі вясёлага ямба.*

*Быў кожны сябе маладзей,*
*Нібыта ляцеў па-над часам.*
*Смяяўся, свяціўся наш дзень,*
*Як яблык пад чарамі Спаса.*

*Хмяліў нас вясёлы той сад*
*Напоем і нашым, і крымскім.*
*І ў шклянцы купала аса*
*Тутэйшага гонару крыльцы.*

*Было маладым не да сну.*
*Шукаючы дзіўнага сэнсу,*
*У сад маладым, у вясну*
*Само расчынялася сэрца...*

Чаго ж гэта я аддаўся фантазіям, нібы зноў залез у чужы сад? Што далей?..

На той «галубятні», як мы называлі яе між сабою, я спачатку жыў са сваім земляком Валодзем — цяперашнім вучоным, доктарам гістарычных навук, прафесарам, членам-карэспандэнтам нашай Акадэміі навук. Ён быў старэйшы за мяне, ужо ў тое лета скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ і... прыйшоў працаваць у тую ж рэдакцыю замежнага вяшчання, дзе працаваў і я. Праўда, у аддзел інфармацыі. Праз нейкі год у ваенкамаце ўспомнілі, што ён не служыў яшчэ ў арміі, і яго прызвалі на вайсковую службу. Пакой мы здымалі на двух, таму гаспадыня параіла падшукаць мне замену земляку: навошта ж пускаваць лішняму месцейку на той «галубятні» і штомесяц губляць пятнаццаць рублёў?

Даведаўшыся, што Анатоль Сербантовіч па нейкіх невядомых мне абставінах надумаў выселіцца з інтэрната і шукае прыватны прытулак, я прапанаваў яму: «Давай падсяляйся да мяне! Не дужа далёка і гаспадары прыстойныя, ветлівыя». Анатоль нават узрадаваўся: «А чаму б і не? Паехалі дамаўляцца!»

## «Рыфмамі вершы звязваю...»

Сапраўды, гаспадары трапіліся ветлівыя, нават гасцінныя. Да таго ж у нечым па-свойму інтэлігентныя, блізкія і мне, і яму па сваім стаўленні да беларускага: гаспадар, Павел Антонавіч, галоўны бухгалтар універмага, мог па памяці расказваць вершы і байкі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота, Кандрата Крапівы, якія не вывятрыліся з галавы, засталіся з маладых гадоў. Са мною стараўся размаўляць па-беларуску. Менавіта з гаспадаровай бібліятэкі, што мелася ў доме, я разжыўся двума тамамі са збору твораў Янкі Купалы, які выдаваўся ў 1928 годзе. Гаспадыня, Зінаіда Мікалаеўна, была трошкі іншага складу: літаратурай не цікавілася, але нікалі не злавала на кватарантаў, не ўмешвалася ў іх побыт, часцей лагодна ўсміхалася, чым хадзіла панурай ды незадаволенай. Калі здаралася якая сямейная ўрачыстасць, не цуралася запрасіць да свайго стала пачаставацца разам з гасцямі. Не кожны кватарант мог пахваліцца такой пашанай з боку гаспадароў...

Не адразу, ды ўсё ж пэўная доля гаспадароўскай прыхільнасці дасталася і яму, не заўсёды словаахвотліваму Анатолю: нейкі час ён прыглядаўся да іх, а яны — да яго. Нам жа прыглядацца, уваходзіць у давер адзін да аднаго асаблівай патрэбы не было. Як-ніяк дружбацтва наша ўжо не адзін год доўжылася, дагэтуль быццам бы не з'яўлялася падстаў сумнявацца ў яго непарушнасці і шчырасці.

Ды ўсё ж мушу прызнацца: праз нейкі час я пачаў сумнявацца ў правільнасці рашэння — прапанаваць суседства на нашай «галубятні» Анатолю. Раней я ведаў яго болей па сумесных інтэрнацкіх тусоўках, як цяпер кажуць, па зборах на літаб'яднанні ў «Чырвонцы», па рэдакцыйных стасунках у часопісе «Бярозка», па нейкіх застольных імпрэзах, а тут раптам апынуліся пад адным дахам, у адным пакоі, сталі суседзямі па тапчанах, што стаялі ў ім побач, амаль упрытык. Розныя характарам: я — спакойны, у нечым маруда, не пазбаўлены нейкай развязнасці, ён — узрушліва-няўседлівы, гарачы, задзірыста-катэгарычны ў меркаваннях і выказваннях, можа быць, з ноткамі самапэўненасці. Анатоль не хаваў сваіх поглядаў, выказваў у вочы тое, што думаў, з чым не пагаджаўся, што падказваў яго прыдзірліва-крытычны розум і сумленне. Ён асабліва не разбіраў, хто перад ім: ці то пісьменнік сталага веку, з «каронаю класіка», ці то нехта з нас, ягоных сяброўтаварышаў, такіх жа, як і ён, шукальнікаў рыфмы. Хтосьці б прамаўчаў, сваю думку пакінуў пры сабе або прыхаваў бы да іншага зручнага моманту, а ён не мог — адразу «загараўся»! Адкуль гэта ўсё, адкуль у яго такі характар, Анатоль прызнаўся (і, зноў жа, значна пазней) у вершы пра сваю радаслоўную: «І пэўна, і мела, і мае значэнне // Тое, што каб на калені не ўпаў, // Май нарадзіў, а хрысціў мяне чэрвень // І у свінцовай купелі купаў». (Сапраўды ён нарадзіўся 13 мая (!) 1941 года, за нейкі месяц да пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Таму яго зразумець можна: «Год сорак першы — нянавісць і боль».) І яшчэ не прамінуў прызнацца: «Я ўзяў у ячменю характар яршысты, // Даў мне задуменнасць задумлівы бор...» З-за гэтай «ячменнасці», мабыць, і ўсяляків непрыемнасці меў, асабліва ад тых, хто трымаўся вышэйшых пасад ці караскаўся па прыступках кар'ернай лесвіцы, каб дамагчыся свайго, хоць сам рабіў выгляд, быццам не зважае іх, быццам яму ўсё ні па чым, як з гуся вада. Можа, гэта проста здавалася?..

Аднак што гэта я? Зноў загаварыўся, збочыў не на тую сцежку? Пэўна ж, трэба хутчэй патлумачыць, з-за чаго ўзніклі мае сумненні наконт нашага суседства ў пакойчыку на вуліцы Грамадскай, хоць я, не сумняваюся, быў адным з першых, хто змог прычыніцца да таямніц яго «творчай лабараторыі», убачыць, як ён шчыраваў над вершамі, тварыў. Нават зрабіў папраўку: не тварыў, а чараваў. Найчасцей — у начной цішыні.

Пакуль Анатоль кватараваў побач са мною, пакойчык наш не паспяваў выветрывацца ад водару кавы. Не такой, канечне, як цяпер рэкламуюць і прадаюць, а больш простай, даступнай, якая была па кішэні тагачаснаму звычайнаму інтэлігенту. Каб не дужа браў сон, ён звечара заварваў яе цэлую каструлю, захутваў у ручнік, каб не так хутка астывала, ставіў да стала і... пачынаў пісаць. У такія хвіліны я не ўлазіў у размовы, сцішваўся на тапчане, што стаяў упрытык да стала, стараўся заснуць. Мне ж трэба было рана падымацца, каб не спазніцца ў рэдакцыю радыёкамітэта, а Толя мог паспаць і пазней, нават затрымацца, калі што якое: у часопісе «Бярозка» працоўны дзень традыцыйна пачынаўся «са спазненнем», недзе ўжо апоўдні. Як і ў астатніх літаратурных выданнях. Самога потым такая «выгода» спакусіла: надоўга раздумваў, калі запрасілі туды на працу...

Заседжваўся Толя за сталом, пакуль не пачынала днець, а на дне каструлі не заставалася адна гушча. Я часам паджартоўваў:

— Ты ведаеш, Толя, чаму твае вершы падабаюцца чытачам, асабліва дзяўчатам?

— Чаму? — не мог ён спачатку зразумець, да чаго я хілю.

— Ды таму, што яны замешаны на кафейнай гушчы. На той, на якой яны любяць варажыць.

Пачуўшы гэта, ён спачатку заходзіўся нейкім крышку ненатуральным рогатам, які быў яму ўласцівы, потым, нібы пагадзіўшыся, выказваў сваё меркаванне:

— Затое трывалейшыя будуць, не рассыпяцца адразу, як крыткі іх тузаць ды трэсці будуць, шукаючы недахопы. Яны ж у нас такія...

Свайго погляду на ўсё была Зінаіда Мікалаеўна, наша гаспадыня.

— Ой, Анатоль, паслухай мяне! Ты ж гэтак можаш сэрца заўчасна пасадзіць, — выгаворвала яна, прымаючы з яго рук пустую каструлю з тою чорнаю гушчаю на дне.

— Нічога, вытрымае, — не пагаджаўся з ёю Толя. — Кава ж не мяшкі з цэментам і жытам, якія я ў калгасе грузчыкам на гарбе цягаў.

— Глядзі, — папярэджвала яна, хітнуўшы галавою і зачыняючы за сабою дзверы з нашага пакоя.

Я не меў звычкі раніцай, пакуль Толя спаў, соваць нос, падглядваць у скрэмзаныя старонкі вучнёўскіх сшыткаў (чамусьці ў такіх сшытках ён любіў пісаць), што разгорнутымі бязладна ляжалі на стале. Я верыў яму, калі ён, здаралася, стомлена-задаволена прызнаваўся, нібы хацеў нечым упікнуць мяне:

— Ты спаў як сурок, а я за ноч пяць вершаў напісаў. Не верыш? Тады паслухай, каб не сумняваўся, — паспешліва перагарнуў некалькі старонак сшытка, даўжэй затрымаў позірк на адной з іх, потым энергічна пачаў чытаць, падмахваючы ў лад радкам рукою:

*Рыфмамі вершы звязваю,*
*Атрымлівай — што каму,*
*І запіраю іх, вязняў,*
*У шуфляду, нібы ў турму.*

*Хто меней сядзіць, хто болей,*
*Аж пакуль не будзе указ:*
*І не амнісціруе волю*
*Начальнік няўмольны — Час.*

*Начальнік,*
*працуй спакойна,*
*Табе давяраем мы.*
*Толькі адных дастойных*
*Ты выпускай з турмы.*

Скончыўшы чытаць, утаропіўся ў мяне позіркам:

— Ну як? Не будуць чапляцца, што трохі жорстка сказана, вязняў ды турму ўплёў? У нас жа такіх слоў не любяць, стараюцца пазбягаць іх, быццам нікога за краты не садзяць, баландай не кормяць.

— А па-мойму, ніякай крамолы тут няма, — выказаў я сваю думку. — Вобразна ж сказана. Толькі паглядзі, каб у чацвёртым радку ў першай страфе пасля «у» кароткага зноў «у» не скарачалася — «ў шуфляду». Вымаўляць цяжка. І не па правілах. Гэта класікі маглі сабе такое дазволіць, той жа Максім Танк, а да цябе з-за гэтага могуць прычапіцца. Скажуць: трэба папраўць. Ці Аўрамчык, ці так хто...

Ён зноў прабег вачамі па радках, тыцнуў пальцам у сшытак:

— Няхай пакуль так застанецца, а там пагляджу...

Перачытваючы нядаўна зборнік «Жаваранак у зеніце», у раздзеле «З неапублікаванага» заўважыў: гэты верш Анатоль пакінуў у такім выглядзе, у якім чытаў мне. Магчыма, вырашыў застацца пры сваёй думцы (гэта было ў яго характары), а магчыма, не спяшаўся...

# Экзамен для паэта, або Беларускія адценні санета

**Узнікненне гэтага паэтычнага жанру гісторыкі літаратуры звязваюць з імем сіцылійскага паэта Джакама да Ленціна, натарыуса пры двары Фрыдрыха II. З пачатку XIII стагоддзя і да нашага часу санет перажыў шматлікія падзенні і ўзлёты і стаў адной з асноўных форм паэзіі. У сусветнай лірыцы ён прадстаўлены творамі такіх майстроў слова, як Дантэ, Пятрарка, Рансар, Лопэ дэ Вега, Шэкспір, Мільтан, Гётэ, Міцкевіч, Пушкін, Рыльке…**



*Малюнак Алесі Ісы.*

## СТРОГАЯ МУДРАСЦЬ ПАЭЗІІ

Гэта цвёрдая вершаваная форма строгая паводле арганізацыі: у ёй і аб'ём, і строфіка фіксаваныя, разгортванне зместу адбываецца па пэўных правілах. Але нягледзячы на фармальныя цяжкасці жанру, санет стаў адным з найбольш жыццяздольных відаў лірыкі. Ён успрымаецца як творчы экзамен для паэтаў, якія імкнуцца выпрабаваць свой талент і сцвердзіць сябе ў мастацтве слова.

Прычыны вялікай папулярнасці санета закладзеныя перадусім у самой яго прыродзе. Нямецкі пісьменнік і вучоны І. Р. Бехер, аўтар работы «Філасофія санета, ці Маленькае настаўленне па санеце», назваў яго закончанай формай дасканалага зместу, якая дасканалым жа чынам прадстаўляе паэтычны прынцып. На думку даследчыка, санет — гэта «ўвасабленне паэтычнай мудрасці», што аб'ядноўвае праўдзівае і прыгожае, з найбольшай дакладнасцю адлюстроўвае закон мастацтва — самымі эканомнымі сродкамі дасягаць найбольшага эфекту.

Многія вучоныя адзначаюць лёгкасць успрыняцця санетнай формы. Так, расійскі даследчык А. Фядотаў лічыць яе ўзорам аптымальнай порцыі лірычнага выказвання — лёгка агляднай, успрымальнай і запамінальнай, якая, калі прыгледзецца да вопыту выдатных майстроў мінулага і сучаснасці, якраз і вагаецца паміж трыма і чатырма чатырохрадкоўямі. Дзякуючы гэтым якасцям санет становіцца своеасаблівым аўтарскім мастацкім перастварэннем рэальнасці, дзе хаатычнасць жыцця пераадольваецца дасканалай мастацкай формай, а шырокі дыяпазон пачуццяў і думак пераплятаецца з тэхнічным майстэрствам.

## ДЗВЕ ТРАДЫЦЫІ

Санет загучаў па-беларуску ў пачатку XX стагоддзя. На пераломе эпох, калі ўзнікаюць новыя эстэтычныя сістэмы, напрамкі і школы, паэты асабліва часта звяртаюцца да класічных форм. Расійскі вучоны М. Гаспараў заўважыў, што ў эпоху рамантызму і сімвалізму санет стаў вельмі папулярным, найперш — у нямецкай, англійскай і часткова славянскіх літаратурах як жанр філасофскай, апісальнай і інтымнай лірыкі. Гэта стварыла вельмі спрыяльныя знешнія перадумовы для ўзнікнення нацыянальнага санета. Унутраная прычына была прадыктаваная спецыфікай актыўнага развіцця айчыннага прыгожага пісьменства пачатку XX стагоддзя і падмацаваная пільнай неабходнасцю і здольнасцю засвойваць набыткі сусветнай літаратуры.

У 1910 годзе Янка Купала напісаў верш «Жніво» — першы беларускамоўны ўзор санета. Вядома, да гэтага жанру прад'яўляюцца строгія патрабаванні: гэта павінен быць чатырнаццацірадковік, напісаны пяцістопным (дапускаецца чатырох- або шасцістопны) ямбам, з двух катрэнаў і двух тэрцэтаў з дзвюма і трыма рыфмамі адпаведна або з трох чатырохрадкоўяў і заключнага двухрадкоўя з павялічанай колькасцю рыфмаў. Разам з тым санетная форма вылучаецца шырокімі тэматычнымі магчымасцямі яе выкарыстання. Тут яна якраз менш за ўсё звязаная з канонамі і традыцыяй. Клопат пра лёс Бацькаўшчыны, рознабаковае выяўленне сябе як творчай асобы, паэта-прарока, песняра сваёй Айчыны прадвызначылі тэматыку санетаў Я. Купалы, які звяртаўся да гэтага жанру ў самыя складаныя моманты беларускай гісторыі. Драматызм, экспрэсіўнасць, напружанасць паэтычнага радка адлюстроўвалі вастрыню закранутых праблем і часта прыводзілі да парушэння строгіх канонаў.

У 1911 годзе да санета звярнуўся Максім Багдановіч. Верш «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…» і пазнейшыя па часе напісання «На цёмнай гладзі сонных луж балота…», «Замёрзла ноччу шпаркая крыніца…», «Прынадна вочы зззяюць да мяне…» — узоры класічнай санетнай формы. М. Багдановіч выступіў і як перакладчык санета, і як яго даследчык. Тэарэтычна-гістарычны нарыс «Санет» па сёння не страціў актуальнасці і з'яўляецца адной з нямногіх грунтоўных айчынных работ, прысвечаных жанру.

З цягам часу ў беларускай санетыстыцы сфарміраваліся дзве традыцыі. Адна з іх — кананічная, са строгімі правіламі, пачынальнікам якой з'яўляецца М. Багдановіч, другая — традыцыя Я. Купалы, што парушае агульнапрынятыя законы дзеля свабоды творчасці. Строгай размежаванасці паміж імі, зразумела, няма: дастаткова ўспомніць, што сам М. Багдановіч таксама пісаў далёкія ад класічных узораў вершы і выбраў для перакладу на рускую мову самыя «няправільныя» санеты Я. Купалы.

## АД ІРОНІІ ДА СПОВЕДЗІ

Творчая спадчына пачынальнікаў аказала значны ўплыў на беларускую санетыстыку, які прасочваецца найперш не на ўзроўні рознага кшталту прамых запазычанняў і тэкставага падабенства (хоць ёсць і гэта), а ў спосабах мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, у ідэйна-канцэптуальным плане. У 20 — 30-я гады XX стагоддзя мастацкія набыткі папярэднікаў развівалі З. Бядуля, А. Гарун, У. Жылка, У. Дубоўка, А. Дудар, Я. Колас, Г. Леўчык, А. Мілюць, М. Танк, П. Трус і інш. Працягвалася і тэарэтычнае даследаванне цвёрдай формы: у 1927 годзе выйшла «Тэорыя санета» Я. Барычэўскага.

Сапраўднага росквіту айчынная паэзія цвёрдых форм дасягнула ў другой палове XX стагоддзя, калі сфарміравалася багатая нацыянальная традыцыя санетапісання. Яна прадстаўленая такімі імёнамі, як Р. Барадулін, Н. Гілевіч, Л. Дранько-Майсюк, Х. Жычка, В. Жуковіч, А. Звонак, В. Зуёнак, М. Маляўка, З. Марозаў, С. Мінскевіч, У. Паўлаў, Ю. Пацюпа, Л. Сільнова, Я. Сіпакоў, М. Стральцоў, А. Хадановіч, В. Шніп і многімі іншымі.

Беларуская санетыстыка надзвычай разнастайная па змесце: інтымная, пейзажная, патрыятычная лірыка, паэтычныя маніфесты, санеты-міфалагемы, іранічныя санеты і г.д. У ёй арганічна спалучаюцца смелыя пошукі сучаснага мастацтва слова з літаратурнай класікай. Адгукаючыся на запатрабаванні часу, паэзія цвёрдых форм па-ранейшаму вылучаецца моцным грамадзянскім гучаннем, не цураецца вострых пытанняў духоўнага і культурнага жыцця нацыі, актыўна распрацоўвае традыцыйныя для яе тэмы Радзімы, роднай мовы, прыроды, вёскі, Чарнобыльскай трагедыі. Разам з тым у беларускай паэзіі (усёй еўрапейскай — таксама) санет стаў вядомы як жанр псіхалагічнай, інтэлектуальнай і філасофскай лірыкі. На яго заўважна паўплывалі такія асаблівасці сучаснай літаратуры, як аўтабіяграфізм, пільная ўвага да ўнутранага свету асобы і праблем чалавечых узаемаадносін. Многія вершы напісаныя ў форме зваротаў, прысвячэнняў і пасланняў, часта гэта аўтапартрэты ці партрэты сучаснікаў і знакамітых людзей мінулага.

Ад самага пачатку свайго ўзнікнення не цураючыся эксперыментаў, наша паэзія цвёрдых форм асвоіла так званыя анамальныя варыянты санета (суцэльны, белы, перавернуты, безгаловы, хвастаты), назапасіла вялікую колькасць вершаў, дзе агульнапрынятыя каноны разбураюцца пад уплывам мастацкай задачы твора. Пры гэтым у сучасных аўтараў мы зможам знайсці і класічныя ва ўсіх адносінах узоры санета.

## ВЯРШЫНІ ЖАНРУ

Неабходна адзначыць імкненне санета да цыклізацыі. Санетныя цыклы стваралі многія аўтары: Х. Жычка, А. Звонак, А. Салавей, М. Кавыль, З. Марозаў. Сярод іх ёсць вялікія па аб'ёме творы: «Палыновыя санеты» Р. Барадуліна, «Беражыце родны свет, нашчадкі...», «Слязой сплывае з неба зорка...» і «Жыццё гартае божая рука» М. Маляўкі, «Ачышчэнне агнём» М. Сяднёва. Яны з поўным правам могуць быць названыя паэмамі, а некаторыя з іх, як, напрыклад, «На хуткіх крылах вольнага Пегаса» А. Салаўя, былі задуманы і напісаны менавіта як паэма. На думку некаторых даследчыкаў, магчымасці санетнага цыкла па маштабах ахопу рэчаіснасці могуць пераўзыходзіць творы любога іншага жанру.

У канцы 1950-х — сярэдзіне 1960-х гадоў у нашай паэзіі з'явілася складаная вершаваная форма — вянок санетаў. У 1958-м у часопісе «Конадні» надрукаваныя два творы: «Вянок санетаў» А. Салаўя і вянок санетаў М. Кавыля «Чорны лёд». У 1965 годзе Н. Гілевіч напісаў вянок санетаў «Нарач», прысвечаны М. Танку (уключаны ў зборнік «Печазовы»). Гэтая форма патрабуе дакладна выказанай думкі, карпатлівай працы над словам, тонкай шліфоўкі радка, што, тым не менш, не перашкодзіла ёй стаць папулярнай у беларускай літаратуры. Сярод вянкоў санетаў — «Аршанскі прарок Караткевіч», «Маргарыта Скарына», «Ян і Яніна» В. Аколавай, «Шлях да Радзімы» Э. Акуліна, «Шляхі» Т. Бондар, «Зорка радасці» В. Гадулькі, «Споведзь» У. Дзюбы, «Праўдзе веку», «Кругі», «Званы» А. Звонака, «Ворыва», «Сяўба» П. Макаля, «Бабіна лета ў Белаазёрску» Н. Мацяш, «Вянок парадыйных санетаў» М. Пазнякова, «На скрыжаванні лёсаў і падзеяў» Л. Рублеўскай, «Курганы», «Васілёк», «Салдат» А. Сербантовіча, «Гонар твой жаночы» В. Собаля, «Жорсткая музыка» Я. Хвалея, «Святая студня» Я. Чыквіна, «Вянок» М. Шабовіча і інш.

Такія цыклы могуць утвараць яшчэ больш складаную канструкцыю — вянок вянкоў санетаў, куды ўваходзяць чатырнаццаць вянкоў санетаў і пятнаццаты магістральны вянок з першых радкоў усіх папярэдніх двухсот дзесяці твораў. У 1991 годзе выйшла кніга З. Марозава «Апакаліпсіс душы» — першы ў еўрапейскай літаратуры вянок вянкоў санетаў. Цікава адзначыць, што менавіта з гэтай найскладанейшай формы і пачалася праца пісьменніка ў беларускай санетыстыцы. Крыху пазней, у перыяд з 1990 па 1993 год, ім было напісана дзесяць вянкоў санетаў: «Сад», «Ты», «Валуны», «Прызнанне», «Дума», «Наканаванне», «Барок», «Аб роўнасці, аб волі, аб зямлі», «Таемнасць», «Вянок Беларусі».

Услед за З. Марозавым вянок вянкоў санетаў надрукаваў М. Віняцкі («Загойвай боль, сінь яснавокай зоркі…», 1999). Праз год з'явіўся твор С. Шах «Адухаўленне». Сёння на яе творчым рахунку вянкі вянкоў санетаў «Прысвячэнне», «Прызначэнне», «Спасціжэнне», «Увасабленне», «Азарычы», «Каб тое выказаць…», «Дзе яно ўсё?..» У 2015 годзе С. Шах выдала асобнай кнігай вянок вянкоў санетаў «Мару стаць я мастаком» — першы ў беларускай літаратуры твор такога жанру для дзяцей.

У беларускай літаратуры ёсць прыклады, калі санеты не толькі аб'ядноўваюцца ў цыклы, але і выступаюць зместа- і формаўтваральнай асновай паэтычнага зборніка, пра што сведчаць кнігі «Усміхніся мне» Я. Сіпакова, «Случарыны» В. Аколавай, «Святлацені» А. Звонака. У 2002 годзе ўбачыў свет зборнік З. Марозава «Я ўсё часцей жадаю слухаць неба», які склалі асобныя санеты, ужо названыя намі вянкі і «Апакаліпсіс душы».

Беларуская санетыстыка мае ў сваёй скарбонцы найпрыгажэйшыя ўзоры нацыянальнага мастацтва слова. Пазнаёміцца з некаторымі з іх можна на старонках «Анталогіі беларускага санета» (2002, складальнік і аўтар прадмовы Я. Хвалей), дзе сабраныя творы сямідзесяці паэтаў, дваццаць тры з іх прадстаўлены вянкамі. У апошнія дзесяцігоддзі цікавасць да паэзіі цвёрдых форм як з боку аўтараў, так і даследчыкаў толькі ўзрастае. З'ява гэтая бачыцца заканамернай. Сёння, пераступіўшы мяжу стагоддзяў і тысячагоддзяў, беларуская паэзія актыўна шукае новыя формы і спосабы адлюстравання жыцця. Санет з яго магчымасцю арганічна сумяшчаць смеласць навізны з гармоніяй класікі ў гэтых пошуках займае значнае месца, сведчыць пра творчую сталасць і асобнага пісьменніка, і літаратуры ў цэлым.

**Інеса БАЎТРЭЛЬ,**
**навуковы супрацоўнік філіяла «Інстытут літаратуразнаўства імя Я. Купалы» Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі**

# Юным чытачам

Часта можна пачуць: маўляў, мала цяпер наведваюць дзіцячыя бібліятэкі, мала чытаюць… Аказваецца, не! Гэта яскрава прадэманстраваў Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі, які ў сталіцы ладзілі Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк г. Мінска сумесна з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Цягам тыдня прайшло шмат адметных сустрэч.

— Сваю творчасць прадставілі амаль 40 пісьменнікаў, — распавяла дырэктар ЦСДБ г. Мінска Таццяна Швед. — Сярод іх — Уладзімір Мазго, Мікола Чарняўскі, Яна Явіч, Іна Фралова ды іншыя. Праводзіліся і тэматычныя выстаўкі, прысвечаныя дзіцячай літаратуры. У святочных імпрэзах актыўна ўдзельнічаў лялечны тэатр «Пацешка» пры дзіцячай бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі.

У дзіцячыя кніжніцы нярэдка прыходзяць цэлымі сем'ямі. Аж 18 сем'яў атрымалі ўзнагароды падчас урачыстай цырымоніі ў Цэнтральнай гарадской дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага як самыя чытаючыя!

— Калі быў школьнікам, на маю малую радзіму, у Зэльву, прыязджалі Алег Лойка, Уладзімір Паўлаў, Аляксей Карпюк, — узгадвае старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Мазго. — Як жа нам, вясковай дзятве, было цікава сустрэцца з жывымі пісьменнікамі, паслухаць іх расповеды! Сёння ж мала хто з юных чытачоў ведае літаратараў-сучаснікаў, бо ў школе найперш праходзяць творчасць класікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка… На маю думку, Тыдзень дзіцячай кнігі якраз і скіраваны на тое, каб пазнаёміць школьнікаў з сучаснай айчыннай літаратурай, прадставіць ім беларускую аўтарскую кнігу.

Мабыць, тады вучні пачнуць больш уважліва ставіцца да творчых набыткаў цяперашняга пісьменніцкага пакалення?

**Анжэла ПРАЖАН**

# З гумарам па жыцці

Сёння, у Міжнародны дзень гумару, усміхнуцца і пажартаваць запрашае Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Тут а 16-й гадзіне адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выстаўкі мастака-карыкатурыста Анатоля Гармазы «Простыя рэчы».

Анатоль Гармаза доўгі час працаваў галоўным мастаком часопіса «Вожык», быў шэфрэдактарам газеты «Пікнік». Аформіў шмат кніг беларускіх аўтараў, школьных падручнікаў, дзіцячых выданняў. Анатоля Іванавіча ведаюць не толькі як таленавітага карыкатурыста, але і як выдаўца: сёння ён з'яўляецца дырэктарам ААТ «Рэдакцыя газеты Шапакляк», выданні якога папулярныя не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі.

Госці ўстановы ўбачаць лепшыя малюнкі мастака за апошнія некалькі год, у тым ліку сяброўскія шаржы і некаторыя карыкатуры з новай кнігі «Простыя рэчы», якая пабачыла свет напрыканцы мінулага года. Як адзначае Анатоль Гармаза, галоўнае ў творчасці карыкатурыста — смех. Таму ўсе яго работы напоўнены выразнасцю, шчырым і лагодным гумарам.

У адкрыцці выстаўкі возьмуць удзел вядомыя мастакі-карыкатурысты Мікола Гіргель і Сяргей Волкаў, паэт-песеннік Алег Жукаў, заслужаная артыстка Беларусі Надзея Мікуліч і спявачка Таццяна Шатэрнік. Супрацоўнікі ўстановы падрыхтавалі шмат сюрпрызаў і цікавостак: пазітыўны настрой забяспечаны!

**Ганна ПАЛЯКОВА**

*У пісьменніцкім асяродку*

# Памяць. Прыгажосць. Паэзія

Навукова-практычная канферэнцыя, адным з найважнейшых аспектаў якой сталі даследаванні, прысвечаныя жыццю і творчасці Аляксея Пысіна, прайшла ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» паведаміла загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Тамара Калініна. У канферэнцыі ўзялі ўдзел выкладчыкі і студэнты Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, пісьменнікі, супрацоўнікі бібліятэк Магілёўшчыны, члены літаб'яднання «Ветэран». Так, цікавасць выклікала даследаванне "Радавы вайны" Аляксей Пысін», у якім сябар СПБ Мікалай Барысенка прыводзіць невядомыя факты з ваеннай біяграфіі паэта. Удзельнікі канферэнцыі прапанавалі ініцыяваць перавыданне твораў Аляксея Пысіна.

Падчас Мінскіх паэтычных чытанняў, гэтым разам прымеркаваных да Сусветнага дня паэзіі, сталічныя паэты сустрэліся з прыхільнікамі прыгожага слова ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Я. Купалы. Адкрыў імпрэзу лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Карызна. Новую нізку лірычных твораў прачытаў Навум Гальпяровіч. А Валянціна Паліканіна прадставіла пераклад свайго верша на беларускую мову, выкананы паэтам Міколам Шабовічам. Пасля паэтычнай прамовы Зоі Падліпскай публіка пачула ў аўтарскім выкананні лірыку Аліны Легастаевай, Алены Свечнікавай ды Іны Фраловай.

Сябар Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Сітуха пакінуў свет у росквіце творчых сіл. Прэзентацыя яго пасмяротнага зборніка «Служым закону, народу, Айчыне / Рака часу» прайшла ў музеі УУС аблвыканкама. Кніга выйшла пры садзейнічанні ўпраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама, абласнога савета ветэранаў органаў унутраных спраў і ўнутраных войскаў МУС, Брэсцкай абласной газеты "Заря". Яна прымеркавана да 100-годдзя міліцыі, якое будзе адзначацца ў наступным годзе. Падчас імпрэзы вершы Уладзіміра Сітухі прагучалі ў выкананні вучняў брэсцкай СШ № 8 імя Героя Беларусі У. М. Карвата. Успамінамі пра пісьменніка падзяліліся старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Крэйдзіч, намеснік начальніка УУС аблвыканкама Аляксандр Кавалевіч, дырэктар выдавецтва «Альтэрнатыва» Лілія Уцюкова ды іншыя. Родным Уладзіміра Сітухі былі ўручаны першыя экземпляры новага зборніка.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**1 красавіка** — *на свята кнігі ў межах Тыдня дзіцячай літаратуры ў дзіцячую бібліятэку № 4 (вул. Жукоўскага, 9/1). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**4 красавіка** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**4 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Алінай Легастаевай у публічную бібліятэку № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**5 красавіка** — *на ўрачыстае падвядзенне вынікаў літаратурнага конкурсу сярод студэнтаў Белдзяржуніверсітэта «Славянскі калейдаскоп» у вялікую залу Дома Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**5 красавіка** — *на свята гумару «Беларусы жартуюць» у публічную бібліятэку № 7 (вул. Пляханава, 97/4). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**6 красавіка** — *на літаратурна-мастацкую імпрэзу, прысвечаную адкрыццю выстаўкі фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага «Міхал Агінскі: аднаўленне памяці» ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Я. Купалы. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**6 красавіка** — *у Мінскую абласную бібліятэку імя А. С. Пушкіна на прэзентацыю кнігі паэтэсы Ганны Васільевай «Месяц хрызантэм». Пачатак а 18-й гадзіне.*

**7 красавіка** — *на літаратурнае свята-пасвячэнне ў пісьменнікі з уручэннем членскіх білетаў новым сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Імпрэза пройдзе ў музеі Якуба Коласа (пр. Незалежнасці, 66а). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**8 красавіка** — *на юбілейны творчы вечар паэта і перакладчыка Хізры Асадулаева ў вялікую залу Дома Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**5 красавіка** — *на сустрэчу віцебскіх паэтаў з чытачамі, якая пройдзе ў Віцебскай гарадской бібліятэцы імя Л. Талстога (вул. Герцэна, 29). Пачатак у 11.00.*

**7 красавіка** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Тамарай Красновай-Гусачэнка ў Аршанскі музей імя У. С. Караткевіча (г. Орша, вул. Леніна, 26). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**5 красавіка** — *на вечар «Экстракт быцця. Алхімія творчасці Любові Аляксандравай» у межах літаратурнай гасцёўні маладых аўтараў Гомеля «31 мерыдыян». Імпрэза адбудзецца ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна (вул. Савецкая, 26). Пачатак а 16-й гадзіне.*

*Штрыхі*

# У еўрапейскім стылі



Упершыню я пабываў у Паставах разам з сябрамі з наваполацкага літаб'яднання «Крыніцы». Запрасіў нас туды першы сакратар райкама камсамола Генадзь Кулажанка. Тое, што ён выдатна разбіраецца ў літаратуры, вольна і нязмушана размаўляе па-беларуску, уражвала не менш, чым мясцовыя славутасці, якія паказваў нам гасцінны гаспадар.

Сталічны жыхар ад нараджэння, сын вядомага навукоўца свядома выбраў Пастаўшчыну месцам сваёй працы, жадаючы быць бліжэй да глыбінкі, прынесці карысць у беларускіх справах, у выхаванні ў маладых людзей любові да Радзімы. Калі ўлічыць, што гэта былі васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя, такая пазіцыя камсамольскага лідара выклікала і здзіўленне, і павагу. Дарэчы, пазней Генадзь Кулажанка паехаў па накіраванні ЦК ВЛКСМ у Афганістан і загінуў падчас адной з камандзіровак па краіне.

Памятаю, як ён даводзіў нам, што Паставы зусім не глыбінка, не правінцыя ў духоўным плане, што, калі ў другой палове XVIII стагоддзя Паставы перайшлі ў валоданне Тызенгаўзаў, з ініцыятывы Антонія Тызенгаўза тут пачалі працаваць фабрыкі, некалькі млыноў, гарбарня. Ён істотна змяніў архітэктуру месца, далучыўшы да справы італьянскага архітэктара Джузепе Сака.

На паўднёвай ускраіне Паставаў, на левым беразе Мядзелкі, быў узведзены палац, на ўсход ад якога разбілі пейзажны парк. На рынку ўтварыўся ансамбль з мураваных дамоў рамеснікаў, лекара, аўстэрыі, гандлёвых радоў. У мястэчку дзейнічала тэатральная школа Тызенгаўза, перавезеная з Гародні. Тады пра гэта мала хто гаварыў, бо па тых часах Тызенгаўзы лічыліся эксплуататарамі працоўнага народу, польскімі феадаламі, хаця плошча, якую ўпрыгожыў вялікі помнік Леніна, уражвала адметнасцю, ды і мураваныя дамкі Тызенгаўза вакол яе надавалі райцэнтру еўрапейскі выгляд.

З Паставамі быў звязаны і выпадак з майго жыцця, калі, ужо будучы ўласным карэспандэнтам рэспубліканскага радыё, згадзіўся на прапанову калег з Віцебска паехаць па рэпартаж. Яны запэўнівалі, што да вечара вярнуся дадому, тым больш да мяне павінны былі прыйсці госці — святкаваць дзень нараджэння. Як на грэх, наша машына ў Паставах не завялася, на грамадскі транспарт я не паспеў, і госці святкавалі мой дзень нараджэння без мяне…

Потым журналісцкія пуцявіны яшчэ неаднойчы прыводзілі мяне ў Паставы. Памятаю свой рэпартаж з першага фестывалю «Звіняць цымбалы і гармонік» ды інтэрв'ю з яго арганізатарам Тадэушам Стружэцкім. Потым і самому ў якасці ўдзельніка давялося бываць на гэтым унікальным свяце народнага мастацтва. Фестываль штогод збірае ў Паставах дзясяткі самабытных калектываў і сотні арыгінальных выканаўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі… Выступаюць на яго сцэне і вядучыя прафесійныя калектывы краіны — Нацыянальны акадэмічны аркестр імя Жыновіча і Нацыянальны народны хор імя Цітовіча.

А перад мастацкай школай, якой прысвоена імя Антонія Тызенгаўза, устаноўлены скульптуры — работы студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — як сімвалы музыкі і творчасці.

Палац Тызенгаўза ў Паставах — помнік архітэктуры другой паловы XVIII ст. Пачаў будаўніцтва Антоній Тызенгаўз, а скончыў яго пляменнік Канстанцін. У палацы размяшчаўся арніталагічны музей, карцінная калекцыя, у якой былі палотны Рубенса, Дзюрэра. Сёння тут поўным ходам ідзе рэстаўрацыя, на якую выдзелены сродкі з Еўрапейскага саюза. Бальніца пераедзе ў іншае памяшканне, а палац ператворыцца ў музей. Адзін з каардынатараў праекта — намеснік старшыні райвыканкама Юрый Кісялёў. Гледзячы на яго, успамінаю Генадзя Кулажанку — яны падобныя веданнем гісторыі, любоўю да беларускай мовы, культуры.

Для мяне Паставы — і гасцінная хата паэта, краязнаўцы, педагога Ігара Пракаповіча. Я прывозіў сюды сяброў-пісьменнікаў, і мы слухалі дасціпныя аповеды Ігара пра родны край, заўсёды напоўненыя сакавітым гумарам, цікавымі фактамі.

У Ігара шмат сяброў і аднадумцаў і ў сваім горадзе — сярод бібліятэкараў, настаўнікаў, мясцовай інтэлігенцыі.

Не, Паставы — не проста райцэнтр. Тут ёсць што паказаць і пра што распавесці ўсім, хто наведае гэты маляўнічы куток Бацькаўшчыны.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Мікола ШАБОВІЧ

## Хапае і дня

Каханне наша — дым.
Агонь даўно патух.
Ты ў сне штоноч з другім —
Выходзіць, любіш двух?..
Ты ў сне штоноч з другім, —
Са мною — толькі ўдзень.
**Эдуард Акулін**

*Да іншага ўначы*
*Ты ўпотайкі бяжыш*
*І на яго плячы*
*Да раніцы ляжыш.*

*Але ж затое днём*
*Магу я паспытаць,*
*Як жарсць пячэ агнём,*
*Як соладка кахаць...*

*Выходзіць, любіш двух?*
*Ну й добра. Прашапчу:*
*«Агонь даўно патух.*
*Бяжы. Я спаць хачу».*

## Бывай, знясілены герой, або Пара мне ўжо дахаты!

адсюль
дзе вада паўсюль
туды

дзе няма вады
змагацца са смагай ты

ідзеш я хачу з табой
знясілены мой герой
**Таццяна Будовіч-Барадуля**

*было*
*ў галаве гуло*

*але ж*
*помню твой катэдж*

*віно*
*цыгарэтны дым*
*пажадных абдымкаў шчым*

*лямурную лабуду*
*прарвала аднак ваду*

*і тое што быць магло*
*нібыта ў нябыт сплыло*

*пакуль ты ваду насіў*
*знясілеў-знямог зусім*

*лаўлю на хаду аўто*
*знясілены мне нашто*

## Трава можа і не вырасці

Скажы сваё «бывай»
І назаўсёды знікні.
Там вырасце трава,
Дзе мы стаяць прывыклі.
**Вера Буланда**

*Няшчасная трава*
*Адно што толькі й знала,*
*Як я тваё «бывай»*
*Выпрошвала, бывала.*

*А ты нягеглы быў,*
*Мой нехлямяжы хлопчык.*
*Не вельмі каб любіў —*
*Траву ўсё болей стоптваў.*

*Кажы хутчэй «бывай».*
*Лепш пасяджу я дома.*
*«Ці вырасце трава?» —*
*Пытаю ў агранома.*

Аляксандр БЫКАЎ

## Матаблок — у свой радок

…не пакідай без нагляду сваіх віроў
рыбаў у глыбіні птушак паміж аблокаў
пушчаў палёў зуброў і астатніх звяроў
ровараў грузавікоў трактароў матаблокаў…
**Антон Рудак**

*У маладосці, як віруе кроў,*
*Паэт гатовы быць за ўсё ў адказе:*
*За пушчы, што сумуюць без звяроў,*
*За рыб, якія чэзнуць без віроў,*
*За птушак, недагледжаных кароў,*
*Грузавікі і ровары на разе.*

*Ды, зрэшты, і суседскі матаблок,*
*Як без яго вясной направіць грады?!*
*Але, Антон, прымі і ты параду:*
*Не пакідай ніколі без нагляду*
*І свой радок!*

## Ключы ад вечнасці

Няма ў мяне ад вечнасці ключоў:
Згубіў даўно.
**Дзмітрый Пятровіч**

*Няма ў мяне ад вечнасці ключоў:*
*Згубіў даўно, дагэтуль не знайшоў.*
*Таму радкі свае штодня нітую,*
*Бо ўвайсці хачу я ў вечнасць тую!*

## У чаканні…

Каго паклічу ў госці да сябе,
Каго ў дарогу-далячынь збіраю…
Да дна дап'ём кахання успамін…
Услед гляджу — не клічу за сабой.
**Алёна Папко**

*Пакуль гады не цягнуць за спіной,*
*Пунсовым ветразем я мроіць буду.*
*А тых, хто завітае ў домік мой, —*
*Прывечу ў час, адпраўлю і забуду.*

*Перахрышчу я ўслед нямала спін*
*Без крыўды, без папрокаў і праклёнаў.*
*Бо мара у мяне, Папко Алёны, —*
*Да дна дапіць кахання успамін!*

Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

## Аліментшчык

…А нехта чакаў канца свету,
А нехта шчасліві ў кабету,
Не думаў, што будзе пасля…
**Віктар Шніп**

*Не трэба чакаць канца свету,*
*Каб ашчасліваць кабету…*
*Любіць любая кабета*
*Добрыя вершы паэта,*
*Кветкі, духі, кампліменты…*

*…А потым плаці аліменты…*

Тадора ШПІЛЬКА

***

Па матывах творчасці
Віктара Лупасіна

*Пальпацыя*
*Рознай фактуры*
*Аддачай*
*Можа парушыць*
*Вока архітэктуры*

***

Па матывах творчасці
Рагнеда Малахоўскага

*У прывідны рахунак*
*сталасці маёй*
*я вершам упішу*
*імёны ўсіх каханак…*

## Няўдаламу кавалеру

*Са мной толькі ноч і кава,*
*ды гэта не менш цікава,*
*чым розныя шуры-муры*
*з табой альбо іншым дурнем.*

***

*Геній п'яны, ледзь сплятаючы словы,*
*хоць і памерці на словах гатовы,*
*мне пра каханне ўсё нешта казаў.*
*Лепш бы цукерак купіў ды маўчаў...*

***

Прыемна знойдзенае пакідаць за спінай,
прыемна, калі да сябе самога
вядзе каляіна.
**Віталь Рыжкоў**

*На пятую кропку прыгоды знайду.*
*Пакіну за спінай і далей пайду*
*шукаць да самога сябе каляіну*
*і ў тысячны раз буду біты, бязвінны:*
*наезджаная каляіна*
*мае ў сваёй перспектыве*
*граблі адны і тыя.*

***

*Мазахісцкія прыгоды*
*нарабілі столькі шкоды:*
*пяць разоў ён чвартаваўся,*
*на кавалкі разлятаўся…*
*Доўга потым маг-хірург*
*пазл складаў, як дэміург.*

Анатоль ЗЭКАЎ

## Хто ёсць хто

*Эпіграмы*

Іван ЧАРОТА




*У перакладчыкаў*
*такая доля,*
*І, як ні напінайся*
*тут, ні рупся,*
*У Сербіі Іван вядомы*
*болей,*
*Чым у краіне*
*роднай — Беларусі.*

Ліліяна АНЦУХ

*Скажу вам па сакрэце*
*Я, не зманіўшы анігадкі:*
*Яе «Чатыры чвэрці»*
*Хутчэй пацягнуць на «дзясятку».*

Таццяна АТРОШАНКА

*І вершы піша, і спявае —*
*Яе не адштурхнеш у цень.*
*Сама Таццяна баявая*
*І ёй кіруемы «Агмень».*

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ



Шаржы Аляксандра Каршакевіча.

*У Караткевіча*
*дазвання*
*Жанчын усіх*
*пералічыў,*
*Нібы хадзіў з ім*
*на спатканні*
*Ці проста ўпотайкі*
*сачыў.*

Раіса БАРАВІКОВА

*Хоць і ступае па зямлі,*
*Задум касмічных мае шмат.*
*А пагаворыш з ёй калі,*
*То й сам нібыта астранаўт.*

Анатоль КАЗЛОЎ

*Пад «Незламанай свечкай» прозы*
*І гэты свет, і той спакон,*
*Ды ўсё-ткі з «Горада ў нябёсах»*
*Ляціць заўсёды ў Гомель ён.*



Соф'я ШАХ

*Санетная з усіх*
*паэтак,*
*Радкі штодня на вагах*
*важыць.*
*Яна пляце вянкі*
*санетаў,*
*Нібы ў вянкі цыбулю*
*вяжа.*

Мікола ШАБОВІЧ

*Хоць напісаў і на мяне ён шмат,*
*Як і на калег-сяброў, пародый,*
*Ды мне ў пародыі Мікола — брат,*
*Хоць не магу сказаць, што родны.*

Уладзімір МАЗГО

*У Зэльву ён на «Сакавіны»*
*Вязе штогод сваю сябрыну,*
*І земляка за гэта вельмі*
*Вітае па-зямляцку Зэльва.*

Ганад ЧАРКАЗЯН



*Хоць «Чаргаві» —*
*чатыры крокі,*
*Ды курд зрабіў іх*
*так шырока,*
*Што без усякіх*
*рэверансаў*
*Узбег на самы верх*
*Парнаса.*

Георгій МАРЧУК

*У Марчука спраў пад завязку,*
*Адзін шчыруе — як за трох:*
*То п'есы піша ён, то казкі,*
*А то й на песні вунь налёг.*

Мікола МЯТЛІЦКІ

*Моў шмат якіх не ведаўшы, умее*
*З іх перакласці вершы, што, няйначай,*
*Не разумеем, хто з іх большы геній:*
*Ці ўласна сам паэт, ці перакладчык?*

*Ці то з кітайскай мовы, ці то з хіндзі,*
*Ці то з такой, якой мы і не зналі.*
*За што ні возьмецца — нярэдка выйдзе*
*Найлепей, чым было ў арыгінале.*

Міхась ПАЗНЯКОЎ

*Пісьменнік з бахаўскай прапіскай,*
*З пасадаю ў СП наменклатурнай,*
*Выводзіць маладых у Мінску,*
*Як за руку, ён у літаратуру.*

Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ



*У «Маладосці»*
*паэтычным*
*Яна загадвае*
*аддзелам,*
*І хоць на ўсё глядзіць*
*крытычна,*
*Ды кожны рады,*
*каб глядзела.*

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

*Што да паэта дзеці прыгарнуцца*
*Заўжды жадаюць — тут няма загадкі.*
*Падказваў, «Дзе пяцёркі прадаюцца»,*
*Цяпер мо скажа, дзе купіць «дзясяткі».*

Алесь ШАШКОЎ

*Як жыццё не падганяе,*
*Ды і думы, й сны яго — з вайны.*
*І хоць «Лань — рака лясная»,*
*«Навальніца спее ў цішыні».*

Антон ПРЫЦЭЛ

*Пароды*

## Няўцям

Мы становімся зноўку чужымі з табою…
**Алесь Бадак**

*Мы становімся зноўку з табою чужымі,*
*Хоць учора, здаецца, так блізка былі.*
*Не зважалі зусім, што над намі кружылі*
*І ўпіваліся ў цела, як стрэмкі, чмялі.*
*Нам так добра было, паяднаўшыся*
*разам.*
*Я, і вершы, і песні адкінуўшы прэч,*
*Абдымаў цябе ў травах высокіх*
*пад вязам —*
*І не болей таго.*
*Ото ж дзіўная рэч:*
*Можа, нешта рабіў я з табою не тое,*
*Можа, нешта зрабіць я не змог і зусім,*
*Што становімся зноўку чужымі*
*з табою,*
*А пад вяз ты ідзеш сёння з сябрам маім?*

## Забытая рыфма

Ахвота вам у рыфму гаварыць!
Я асабіста пра яе забыла.
Магчыма, перагрэўшыся,
астыла,
Нібыта прас, што у куце стаіць...
**Галіна Каржанеўская**

*Калісь і я пісала ў рыфму,*
*Варочаўшы, як глыбы, словы,*
*Ішла паўз іх, нібы праз рыфы,*
*Каб звон радка быў адмысловы.*
*Было, што не піла й не ела,*
*Абы за хвост схапіць удачу.*
*Так галава тады гудзела*
*І, нібы прас, была гарачай.*

*Згадаю час той: Божа мілы,*
*То ж чым займалася, дурніца!*
*...Да рыфмы я, як прас, астыла.*
*Затое як жа добра спіцца!*

## Ліст з правінцыі

Жыццё ў правінцыі, як багна,
Жыўцом засмоктвае людзей.
І на душы крывавіць рана
Маіх няздзейсненых надзей.
**Ігар Пракаповіч**

*Жыву ў правінцыі.*
*На градах —*
*Капуста, морква, агуркі.*
*Мажліва, хтосьці таму і рады,*
*А я, між іншым, не з такіх.*

*Я ўсё ж паэт.*
*Я ў горад прагну,*
*Дзе віск аўто і гам людзей.*
*Інакш зусім засмокча багна —*
*І ў багне талент прападзе.*

*Маім надзеям бы не збыцца —*
*І я наўрад прыехаць змог*
*З Паставаў сёння б у сталіцу,*
*Каб не выходзіў «Дыя@блог».*

**Марыя РУДОВІЧ**

# Абгрунтаванне

*Сатырычнае апавяданне*

Аднойчы па свеце гуляла Абгрунтаванае Абгрунтаванне — вецер аднекуль занёс. Ніхто не ведаў, дзе бадзялася раней. Шэранькае і мала на што здатнае, рухалася крадком, але пры нагодзе гучна крычала: «Усё абгрунтоўваю! Абгрунтавана абгрунтоўваю! Усё ведаю! Усё магу! Да ўсяго спрычынілася! Усе сюды!» — і дзень пры дні поўнілася пачуццём уласнай годнасці і несумненнай неабходнасці. Часам здаралася так, што некаторыя дзівакі траплялі пад абаянне Абгрунтавання і прымыкалі да яго, і тады паўсюдна чуліся захопленыя галасы: «О, Абгрунт! Ах, Абгрунт! Дарагі наш Абгрунт! Разумнічак! Збаўца і ратавальнік!». Але неўзабаве гэтыя дзівакі чамусьці аддаляліся...

Абгрунтаванне тым часам з'яўлялася то тут, то там, не маючы спакою, соваючыся ў натоўпе і даючы парады. «Што гэта за бярвенні? — крычала яно будаўнікам. — Правае павінна быць левым, а левае — правым! Гэта мая абгрунтаваная думка! Яшчэ ў старажытнасці мудрацы даводзілі, што падлога — гэта столь, а столь — гэта падлога! Я ў кніжцы чытала! Во!»

Бегла Абгрунтаванне і да шаўцоў: «Што гэта за пантофлі? Чаму абцасы ззаду? Абцас павінен быць спераду, а нос ззаду! Гэта маё абгрунтаванае меркаванне! Я ў падручнік глядзела! Ага!»

Да авіятараў: «Няздары! Што вы корпаецеся ды ўсё маршрут нейкі вывяраеце? Абгрунтавана кіраваць самалётам здольны толькі той, хто арыентуецца проста на Сабачую Зорку! Вас яшчэ і на свеце не было, як я ўжо мела ў гэтай галіне поспехі, дасягаючы сузор'я Фаскус! Я птушка высокага палёту, выдатнік Міжпланетных Адмысловых Інстанцый, і абгрунтаванні мае заўсёды абгрунтаваныя! О-о-о, незабыўная планета Гаўгрызь! У-у-у…»

Калі ж хто меў нахабства пярэчыць… Зусім кепска.

«О найяснейшы пане Абгрунт! Дазвольце звярнуцца да Вашамосці і запэўніць, што Вашы абгрунтаваныя адказы на нашы неабгрунтаваныя пытанні зрабілі нас шчаслівымі і прасвятлілі розум!» — толькі такімі і ніякімі іншымі могуць быць нашы стасункі! — раз'юшана тупала нагамі Абгрунтаванне. — А што да цябе, Гэлька, калода ты неабгабляваная, дык слухай і запамінай: бабіна дарога — ад печы да парога. І кропка! Аднойчы і назаўсёды! Толькі так разважаюць смелыя хлопцы, сапраўдныя тэрмінатары! Бач ты, уздумала: каханне-вуркатанне, уздыханні-заляцанні, кветачкі-яблычкі! Можа, яшчэ да ЗАГСа з табой бегчы, мяшчанка бязглуздая? Ступа дурная і нікому не патрэбная, а туды ж! Ты на сябе толькі паглядзі, аглобля крывабокая! Гэ-э-э, ды што казаць! Баб'ё і ёсць баб'ё, што ў горадзе, што на вёсцы! Манька-прасталытка! Дзяўбе ўдзень і ўначы: каравай ёй трэба! Ды не абы-які, а хатні, ды на крынічнай вадзе, ды з сунічным пахам! Няма ніякага карыснага занятку, дык усё ля чэрава сноўдае, лісты кляновыя на бляху кладзе! Аматарка каравайная знайшлася! А я дык вось ніяк не зразумею, ну ніяк, што гэта за дзіва такое — хатні каравай?! Які яшчэ каравай?! Во дзе ступа дык ступа! Увесь свет даўно на фастфуды перайшоў, а ў гэтай цацы ўсё каравай! Увесь стол зойме сваім караваем, а гамбургеры ды чызбургеры і пакласці няма дзе. Цецяручка вясковая, што з яе ўзяць?! З лясных нетраў вытыркнулася, з балота выскачыла! Усё жыццё толькі і рабіла, што Бабіна Дзяржальна Універсальнае з рук не выпускала! І як толькі жыць далей збіраецца з прысмакам каравайным у роце?! Мне дык чыпсы больш да смаку. І сучасна, і модна! А галоўнае — у вялікай колькасці! І ўвесь свет душыцца-хапае! Яшчэ і ў чарзе стаіць! І гэта мая кампетэнтная высновa! Я ж не так сабе, я ж кухар знаны: і дыплом маю, і практыку! А ўвогуле, не на дабро тое, вой-вой, не на дабро…»

Калі ж Абгрунтаванню рабілася зусім млосна, яно пачынала спяваць, бо асаблівую схільнасць мела да гукаў, колераў і пахаў. Вось тут Абгрунтаванне было сапраўдным знаўцам усіх тонкасцей справы, і роўных у гэтым занятку яму не было.

— Го-го-го!.. — прачышчаючы горла, галёкала Абгрунтаванне. — Га-га-га!.. «Дождливым вечером, вечером, вечером, когда пилотам, прямо скажем, делать нечего…» Хм, як гэта няма чаго рабіць? Пілотам заўсёды ёсць чым займацца… Больш дакладна было б: «У вольны ад службовых абавязкаў час…» «Мы приземлимся за столом…» Хм, хм… як гэта приземлимся за столом? Значыць, стварылася няштатная сітуацыя, пілот мусіў пасадзіць машыну за межамі аэрадрома… Значыць, больш слушна было б заспяваць: «Калі па незалежных ад нас прычынах сапсавалася лётная тэхніка і пілот сядаў абы-дзе…» А гэта яшчэ што за поговорим о том, о сём… Усё ж такі пілоты не вясковыя балбатухі на прызбе… Значыць, так і трэба праспяваць: «Калі ў адпаведнасці з інструкцыяй аб лётнай практыцы мы абмяркоўвалі вытворчыя задачы…» А вось гэта дык і зусім слухаць не магу: «Над милым порогом…» Гэта ж трэба дажыцца да гэткай разбэшчанасці! Суцэльная распуста ў падтэксце, тым больш з прадметам мужчынскага роду! Да таго ж парог ну ніяк не можа быць мілым. Я ў дапаможніку правярала. Парог, на маю абгрунтаваную думку, можа быць драўляным, жалезным, высокім, нізкім, старым, новым, але ніяк не мілым. Не цалавацца ж з ім. Дык так тады і трэба пазначыць: «Гледзячы з вышыні ў 10 тысяч кіламетраў на наземны пункт па курсе норд-норд-ост, зюйд-зюйд-вест…» Во, як усё склалі ды абгрунтавана павыпраўлялі, можна і заспяваць… І хораша атрымалася, і разумна. А галоўнае — абгрунтавана… А-а-а!!! Людцы, ратуйце! На дапамогу!! «Качну серебряным тебе крылом…» Парушэнне правілаў бяспекі на паветраным транспарце! Відавочнае злачынства! Неадкладна прыцягнуць да крымінальнай адказнасці! Во спевакі дык спевакі! Даспяваліся! Даляталіся! Крыламі тут размахаліся! Знішчыць! Паразганяць! Звольніць! Выключыць! Мая абгрунтаваная прапанова: зараз жа запатрабаваць іхнія сертыфікаты!!! Галовы паадкручваць! Рукі паадбіваць! А яшчэ выклікаць міліцыю і абавязкова з кінолагам, бо каштоўныя ж металы парасцягалі… бясспрэчна, адбыўся крадзеж серабра: усе ж ведаюць, што самалёты робяць з алюмінію!.. І гэта ж, безумоўна, толькі пачатак, як я і прадказвала! Тэрмінова хаўруснікаў адшукаць і павыкрываць!.. І каго гэта толькі ў зман увесці наважыліся вясковыя цецеркі ды цецярукі?! Паліцыя!.. Міліцыя!.. На дапамогу!.. Ратуйце!..

Доўга яшчэ лямантавала Абгрунтаванне. Утварыўся хаос: дрэвы садзілі дагары нагамі, на месцы квітнеючых садоў паўставалі камяніцы, а на месцы камяніц — пустэча. Дактары станавіліся прыбіральшчыкамі, а прыбіральшчыкі — дактарамі, замест сонца ўдзень свяціў месяц, а замест месяца ўначы ззяла сонца…

Але аднойчы насунулася навальніца. У вялікай лужыне сядзела Абгрунтаванае Абгрунтаванне. Нешта мармытала пра свае абгрунтаваныя высілкі, але яго ніхто не слухаў. Мінакі раўнадушна спяшаліся па сваіх справах.

**Мікола ПАДАБЕД**

*Гумарэска*

# Пясцовае футра

Унядзелю жонка прапанавала Паўлу Пеўніку:

— Давай, даражэнькі, сходзім у музей.

— Ты што, Ганна?! — паціснуў плячыма Пеўнік. — У нашым горадзе ж няма музея.

— Эх, Паўлуша, адстаў ты ад жыцця, — самотна ўздыхнула жонка і дадала: — Пойдзем, пакажу.

Хуценька сабраліся. Як дайшлі да фірменнага магазіна «Футра», Ганна пакіравалася туды, буркнуўшы: «Не адставай».

— Ягадка мая, гэта ж крама, а не музей, — заўпарціўся Павел. — Чаго час марнаваць?

— А мы толькі на хвілiначку. Палюбуемся футрамі. Як музейнымі экспанатамі.

Футраў у краме было процьма: пясцовыя, норкавыя… Ганна ўхапіла адно і паспяшалася ў прымерачную. А калі выйшла, сонечна ўсміхнулася:

— Ну як, коцік мой, ці падабаецца пясцовае?

— Вельмі прыгожае. У ім ты як казачная прынцэса. А колькі каштуе?

— Ды дробязь, усяго дваццаць мільёнаў.

— О-о-о… Гэта мне паўгода трэба ўкалваць — не піць, не есці! Кветачка мая, павярніся, калі ласка. Пагляджу на цябе з усіх бакоў… О-па, ды на табе гэты пясец як на карове сядло!

— Чаго?

— Па-першае, футра цёплае, пацець будзеш. А па-другое, надта цяжкае. Згорбішся. Станеш як Баба Яга. Навошта сябе калечыць?

— Паша, не кампасціруй мазгі! Унь у нашай суседкі Каці аж тры футры.



А горб на спіне не вырас, хоць і даўно ёй за сорак.

— Каму ты, любачка, зайздросціш? Каця ў дзеўках звекавала. Пустацвет. Ні мужа, ні дзетак. А ў цябе...

— Знайшоў чым хваліцца! У мяне ўсё ёсць, акрамя шчасця.

— Во дае! — абурыўся Павел. — Ты што нясеш?!

— Няўжо не даўмеўся?! Ой, тупагаловы! Стрэльба любіць смазку, а жанчына — падарункі ды ласку. Цяпер ясна?

— Ага. Што праўда, то праўда… Даю слова: заўтра будзе табе пясцовае футра. Крэдыт вазьму. Толькі напомні, каб не забыўся.

Назаўтра ўвечары жонка патэлефанавала Пеўніку:

— Паша, сустракай. Я зараз прыеду.

— А чаго?

— Ты ж абяцаў купіць...

— Га-га-га! — гучна зарагатаў Павел. — Так, абяцаў. Але ж сёння першае красавіка — дзень смеху... Ну як, спрытна я цябе абуў?

— Ах, вось так?! — успыхнула жанчына. — Твая ўзяла. Але я не крыўдую. Футра ў мяне ўжо ёсць — начальнік падарыў. Так што спі цяпер спакойна — не трэба крэдыту.

— На-чаль-нік? А за якія заслугі?

— Сам ведаеш — не маленькі. Коцік мой, хачу цябе абрадаваць: нам з шэфам заўтра на Канары. Аж на цэлы месяц. А можа, і назаўсёды.

Павел аж заенчыў:

— А я, а дзеці?.. Як жа мы без цябе?! Ганулька, пашкадуй!

— Эх, Паўлік, Паўлік, — выдыхнула ў слухаўку Ганна. — Памяць у цябе кароткая. Сёння ж першае красавіка...

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Памяць*

# Загор'е — сястра Хатыні

**Калі ехаць па дарозе Сілічы — Дзяніскі, павярнуць на вёску Селішча і праехаць кіламетры два па прасёлачнай дарозе, то на ўскрайку лесу ўбачым помнік жыхарам спаленай вёскі Загор'е. На чорнай гранітнай стэле выбітыя словы: «Тут была вёска Загор'е, разам з жыхарамі знішчана фашыстамі 6 чэрвеня 1943 года. Вечная памяць ахвярам». Побач усталявана пліта з прозвішчамі 76 загінулых, сярод якіх — 40 дзяцей ад месяца да 15 гадоў...**

Штогод у дзень гібелі Хатыні, 22 сакавіка, мы ўспамінаем усе спаленыя падчас вайны беларускія вёскі, 186 так і не адрадзіліся. Каля дваццаці з іх у Лагойскім раёне: Дальва, Тхарніца, Слабада, Загор'е… У кожнай — свая трагічная гісторыя.

Адно з самых жорсткіх фарміраванняў нават сярод эсэсаўцаў — асобы карны батальён СС Дзірлевангера — размяшчаўся ў Лагойску, у палацы Тышкевічаў. Камандаваў батальёнам, які на пачатку 1942 г. перавялі з Польшчы ў Беларусь, оберштурмбанфюрэр СС Оскар Дзірлевангер. Спачатку зондэркаманда базіравалася ў Магілёве, дзе вызначылася карнымі аперацыямі супраць партызан і знішчэннем мірных жыхароў. 15 чэрвеня 1942 г. у вёсцы Боркі Кіраўскага раёна адбылася трагедыя: эсэсаўцы знішчылі паселішча з прылеглымі пасёлкамі, а каля 1800 жыхароў расстралялі і спалілі ў хатах.

Дарэчы, спачатку батальён змагаўся з партызанамі. Але аказалася, што знайсці народных мсціўцаў у лясах складана, таму немцы сталі ўжываць метад калектыўнай адказнасці мірных жыхароў за дзеянні партызан. У сакавіку 1943 г. батальён перавялі ў Лагойск. Тутэйшыя вёскі спалены менавіта гэтай зондэркамандай. Сумесна з 118-м украінскім батальёнам яе салдаты знішчылі і Хатынь. У перыяд карных аперацый у батальёне звычайна знаходзіўся гаўптштурфюрэр СС Артур Вільке, супрацоўнік мінскага СД, які меў права на месцы прымаць рашэнне аб знішчэнні вёсак.

У нямецкіх дакументах таго часу засталося данясенне камандзіра нямецкай роты ў штаб асобага батальёна Дзірлевангера. Гэтае падраздзяленне складалася з браканьераў і крымінальных злачынцаў, адабраных у турмах і канцлагерах Германіі і накіраваных у батальён у якасці штрафнікоў для перавыхавання.

У данясенні немцаў, у частцы «надзвычайнае здарэнне», адзначаецца, што раніцай, у 6.30, рота трапіла пад абстрэл з боку Загор'я, таму зваротным агнём былі забіты двое тых, хто нападаў, і два чалавекі ўзятыя ў палон. Паселішча, як «бандыцкае гняздо», знішчана разам з жыхарамі. Гэта адзін з нешматлікіх дакументаў, у якім акупанты напісалі пра знішчэнне вёскі, бо нагода, па іх меркаванні, была важная: стралялі па нямецкіх салдатах. На дакуменце стаіць дата «6 ліпеня 1943 года», а на помніку напісана «6 чэрвеня». Правільная дата — 6 ліпеня, бо ў чэрвені батальён Дзірлевангера ўдзельнічаў у карнай аперацыі «Котбус» і знаходзіўся ў раёне возера Палік.

Батальён Дзірлевангера атрымаў заданне знішчыць партызан у заходняй частцы Лагойскага раёна. Немцы прачэсвалі месцы стаянак партызанскіх атрадаў у Манырльскім і Руднянскім лясах і… палілі вёскі разам з жыхарамі: 22 чэрвеня — Аўгустова, 23 чэрвеня — Ніўкі, 25 чэрвеня — Кандратавічы і Мошчанка, 28 чэрвеня — Мішкавічы, 29 чэрвеня — Сілічы, Лабуншчыну, Старынкі, 3 ліпеня — Рэбрышча. Кожны дзень эсэсаўцы выязджалі ў дазор, ці, як яны называлі, «штрайф», патрулiравалі дарогі, шукалі партызан і спальвалі паселішча за паселішчам…

У тую раніцу яны накіраваліся праз Загор'е да вёскі Сялец. Паводле ўспамінаў мясцовых жыхароў, рота карнікаў прайшла Загор'е і нават адышла ад вёскі. І тут пачуліся стрэлы… Хто страляў, невядома. Эсэсаўцы адразу ж вярнуліся і акружылі паселішча. Пачалася расправа… Мала хто паспеў выратавацца.




Помнік загінулым жыхарам вёскі Загор'е.

Мне ўдалося знайсці мінчанку Зінаіду Дзік — яна памятае расповеды бацькі, які ў той дзень быў у Загор'і. Да вайны Міхаіл Арлоўскі працаваў кавалём. Меў чацвёра дзяцей. Каваля ў армію не прызвалі. Арлоўскі на ўсялякі выпадак зрабіў у лесе зямлянку. Працаваць у кузні ён больш не мог: немцы разумелі, дзе можна рамантаваць зброю для партызан. Днём Міхаіл Сцяпанавіч хаваўся ў зямлянцы, а ноччу прыходзіў дадому. Надосвітку сыходзіў у лес. Так было і ў той страшны дзень.

Жонка прыгатавала сняданак і папрасіла дзевяцігадовага сына Толю занесці бацьку ежу. А праз некаторы час карнікі акружылі хаты. Разбівалі вокны і стралялі без разбору… Дамы падпальвалі. Малы застаўся жыць з бацькам у зямлянцы. Яго маці, брат і дзве сястры загінулі. Пахаваць змаглі толькі на наступны дзень: тое, што ад іх засталося, сабралі ў хустку, паклалі ў кошык і закапалі пад бэзам — там, дзе цяпер і стаіць помнік.

Уратаваліся толькі некалькі чалавек, якія ў той трагічны дзень пасвілі кароў.

Успаміны сведак супадаюць з нямецкім дакументам: фатальныя стрэлы сталі нагодай для злачынства фашыстаў. Але… Хіба жыхары вінаватыя ў тым, што адбылося за вёскай? Хіба жанчыны з немаўлятамі павінны былі адказваць за кожны стрэл па немцах? Звычайна немцы каралі жыхароў за параненых ці забітых салдат, але ў нямецкім данясенні пазначана, што страт у той дзень не было...

Ёсць у Лагойскім раёне і другая вёска Загор'е. У 1943 г. карнікі спалілі ўсе 19 яе хат. Загінула 15 жыхароў, астатнія змаглі ўцячы. Пасля вайны Загор'е аднавілі. Дзве вёскі з аднолькавай назвай, але ў кожнай — свая гісторыя.

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ,**
**фота аўтара**

*Цікава ведаць*

# Пра марскіх герояў

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прапануе пазнаёміцца з выстаўкай «Беларусь — радзіма марскіх герояў», якая прысвечана 110-годдзю падводнага флоту. Экспазіцыя падрыхтавана сумесна са сталічным цэнтрам акіянаграфіі «Адкрыты акіян». Наведвальнікі змогуць даведацца не толькі пра гісторыю падводнага флоту і беларусаў-падводнікаў, убачыць падводнае абсталяванне і макеты падводных лодак, але і паназіраць за радыёкіруемымі мадэлямі суднаў у басейне.



Вадалазны шлем. 1970 г.

Дарэчы, першую суцэльнаметалічную падлодку (1834 г.) стварыў ураджэнец Віцебскай губерні, інжынер-генерал Карл Шыльдзер. Аднак толькі ў пачатку XX ст. падводныя караблі з'явіліся ў складзе ваеннамарскіх сіл вялікіх дзяржаў: першая сусветная вайна паказала, што гэта новы і эфектыўны сродак вядзення баявых дзеянняў.

У гады Вялікай Айчыннай вайны савецкія падводнікі знішчылі нямала караблёў і падлодак праціўніка, паспяхова суправаджалі канвоі саюзнікаў. У выніку 20 марскіх герояў уганараваны званнем Героя Савецкага Саюза, у тым ліку і камандзір «Щ-310», капітан 3-га рангу Самуіл Баграад, які нарадзіўся ў Віцебску.

Беларусь можа ганарыцца сваімі маракамі: больш як 70 адміралаў СССР — выхадцы з Беларусі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Аматарам гісторыі

**Першы ў гісторыі Рагачова краязнаўчы альманах створаны па ініцыятыве мясцовых краязнаўцаў.**




Як пішуць у звароце да чытачоў члены рэдакцыйнай калегіі, першы выпуск альманаха — спроба стварэння пастаяннага краязнаўчага выдання на Рагачоўшчыне, мясцовая ініцыятыва, асноўная мэта якой — аб'яднаць аматараў гісторыі роднай зямлі, далучыць іх да прапаганды краязнаўчай інфармацыі. Гэта яшчэ адна магчымасць для даследчыкаў падзяліцца ведамі, расказаць пра знаходкі і назіранні, выказаць меркаванні і прапановы.

На старонках выдання будуць змяшчацца артыкулы, прысвечаныя гісторыі і традыцыям рэгіёна, этнаграфіі, фальклору, архітэктуры, знакамітым землякам, якія праславіліся не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Асаблівая ўвага — выніку краязнаўчых пошукаў. Даследаванні падаюцца на беларускай і рускай мовах.

Першы выпуск альманаха пабачыў свет невялікім накладам — 50 асобнікаў. Тут змешчаны артыкулы выдатнага рагачоўскага краязнаўцы і мастака Уладзіміра Паладзенкі «Вуліцы майго горада», матэрыял даследчыка Аляксандра Клімовіча пра адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне Рагачоўшчыны ў 1900 — 1925 гг., «Сведения о населении Рогачева в конце XIX — начале XX века», падрыхтаваныя супрацоўнікам Магілёўскага бібліятэчнага каледжа Іванам Ліхаравым. Чытачам прапануюцца артыкулы краязнаўцаў і педагогаў Андрэя Чарняўскага «Яўрэйскія могілкі горада Рагачова» і Аляксандра Лейкіна «Мудрец из Рогачева»; аповед краязнаўцы і журналіста Мікалая Шуканава пра свята Гаўрыіла Зубава і інш.

Пакуль што альманах будзе выходзіць не часцей чым раз у квартал. Азнаёміцца з выданнем можна ў цэнтральнай раённай бібліятэцы, музеі народнай славы, раённым цэнтры краязнаўства і турызму.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# Калі за фактам паўстае эпоха

**У Магілёве пабачыла свет новая кніга ваеннага гісторыка Мікалая Барысенкі «Рэха “Вялікай вайны” ва Усходняй Беларусі (1914 — 1918)». У аснове творчасці пісьменніка і практыка-пошукавіка — невядомыя ці малавядомыя падзеі Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Прыдняпроўскага краю.**

Аднак дапытлівая думка гісторыка прыводзіла Мікалая Барысенку і ў часы больш старадаўнія: яго цікавілі вынікі пошукаў на месцах бітваў Паўночнай вайны, гераічнае процістаянне «заваёўніку Еўропы» Напалеону Банапарту. А яшчэ — падзеі Першай сусветнай вайны на Магілёўшчыне, якая на той час займала значную тэрыторыю Усходняй Беларусі.

Кніга, выдадзеная пры садзейнічанні Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, прадстаўлена ў анонсе як папулярнае, літаратурна-мастацкае выданне. Але па шырыні ахопу гістарычнага матэрыялу — дакументальных, мемуарных крыніц, навуковых даследаванняў, па глыбіні і грунтоўнасці іх разгляду выданне прэтэндуе на статус унікальнай тэматычнай энцыклапедыі Першай сусветнай вайны ва Усходняй Беларусі.




У поле зроку аўтара — не толькі баявыя дзеянні, але і звязаныя з імі факты. Шырока прадстаўлены стан гаспадаркі ў розныя перыяды вайны, грамадскія адносіны, дзейнасць царквы, культура, фінансы і медыцына, развіццё дабрачыннасці і валанцёрства… Пры гэтым выданне не страчвае прыцягальнасці для масавага чытача. Мноства дакументальных фотаздымкаў, рэпрадукцый, копій дакументаў, музейных рарытэтаў ствараюць выразны фон і падкрэсліваюць аб'ектыўнасць і энцыклапедычнасць матэрыялу.

У змесце кнігі «Рэха “Вялікай вайны”…» прасочваецца выразная аўтарская пазіцыя, пэўныя ідэйныя прыярытэты. Важна, аднак, што незалежна ад асабістых прыхільнасцей чытача гэта пазіцыя не выклікае непрымання, адарванасці. Наадварот, абуджае думку, прымушае з асаблівай увагай прыслухоўвацца да аргументаў і довадаў аўтара.

Прычына такой рэакцыі, на мой погляд, у рэдкай для сучасных гістарычных работ асаблівасці: усе падзеі, іх прычыны і вынікі «пралампяюцца» праз жыццё і лёсы канкрэтных людзей. Каштоўны досвед шматгадовага пошуку, які праводзіць нязменны старшыня гісторыка-патрыятычнага клуба «Вікру» Мікалай Барысенка, асвятляючы асаблівы кірунак у назіраннях, адмысловы падыход і да ўдзельнікаў Першай сусветнай вайны.

Цяжка заставацца раўнадушным, калі разам з аўтарам працягваеш сачыць за нязначнымі, на першы погляд, дэталямі франтавога быту салдат-акопнікаў, афіцэраў ці нават вышэйшых чыноў Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага рускай арміі, у тым ліку царскай сям'і і яе найбліжэйшага акружэння. За фактамі і з'явамі непрыкметна паўстае эпоха.

Аўтар сцвярджае: «У пачатку вайны ваявалі арміі, а ў канцы яе — народы». Гэта не проста прыгожая фраза — сутнасць сучаснай вайны, якая ўпершыню заўважана ў ходзе Першай сусветнай. Менавіта гэтыя абставіны, а не маштабы ваенных дзеянняў і колькасць уцягнутых у яе людскіх і матэрыяльных рэсурсаў, дазволілі сучаснікам назваць яе Вялікай вайной.

Мікалай Барысенка не навязвае чытачу свайго меркавання. Ён у дэталях стварае карціну жыцця на вайне. Яе падзеі праз погляд магілёўскага мешчаніна, ваеннапалоннага, мірнага бежанца, прыдворнага чыноўніка, баявога афіцэра складваюцца ў стракатую мазаіку, якая потым дае падставу для роздуму пра кардынальныя пытанні гісторыі XX стагоддзя.

Уважлівы чытач не пакіне па-за полем зроку пэўныя паралелі паміж падзеямі 1914 — 1918 гг. і сітуацыяй 1990-х. У гэтым сэнсе асаблівы інтарэс маюць працэсы распаду палітычных інстытутаў. Адзін з найважнейшых — інстытуалізацыя Памяці. Пра гэта з болем піша Мікалай Барысенка, згадваючы мільёны ахвяр Вялікай вайны, якія ў пераважнай большасці невядомыя. Невыпадкова адзін з раздзелаў кнігі прысвечаны землякам — георгіеўскім кавалерам, якія па праве павінны заняць месца побач з героямі Вялікай Айчыннай. Упершыню ў краіне аўтар устанавіў імёны 164 кавалераў Георгіеўскага крыжа — ураджэнцаў Усходняй Беларусі, адзначаных самай ганаровай узнагародай Расійскай імперыі. 34 з іх поўныя, узнагароджаныя ордэнамі чатырох ступеней, г. зн. па дамоўленасці з уладамі г. Магілёва імёны іх будуць ушанаваныя на плошчы Славы побач з Алеяй Герояў Савецкага Саюза.

**Уладзімір ЯКУБОЎСКІ**

# Вытанчанасць і практычнасць

**У экспазіцыі Мірскага замка прадстаўлена шмат унікальнай рарытэтнай мэблі. Сярод экспанатаў — драўляны куфар, дэкарыраваны металічнай коўкай, выраблены ў Паўночнай Германіі (XVI ст.). Мода на куфры — знак багацця — трымалася шмат стагоддзяў: іх вырабам займаліся высакакласныя рамеснікі, расфарбоўкай — знакамітыя мастакі.**

Пазней у куфра з'явіўся «канкурэнт» — больш зручная ў побыце шафа. Сёння ў Міры можна ўбачыць шафу, выраблену ў Паўднёвай Германіі ў XVII ст. Займеўшы шкляныя дзверы і асобныя паліцы, яна ўрэшце набывае выгляд кніжнай ці шафы-бюро. У экспазіцыі прадстаўлены дзве кніжныя шафы: адна зроблена ў Расіі, другая — у Еўропе ў канцы XIX — пачатку XX ст.


*Шафа-вітрына (канец XIX — пачатак XX ст.).*

Спярша посуд захоўвалі ў звычайнай тумбе, якая адрознівалася ад мэблі для бялізны і адзення. Затым з'явіўся дрэсуар — шафа на ножках для посуду («вырасла» з куфра), у якую змяшчалі самае каштоўнае — часцей за ўсё прадметы рэлігійнага культу. Туды ж ставілі медны посуд. У замку прадстаўлена драўляная шафа-посуднік XIX ст. з узорамі ў выглядзе раслiннага арнаменту.

Посуднік з часам «перарос» у буфет. Класічны буфет — гэта тры ярусы: ніжні зачынены, верхні зашклёны, а падзяляла іх аб'ёмная ніша.

А вось і горка XIX ст. з Германіі. Яе вітрына не падобная на ўсе астатнія шафы для сталовай — зашклёная зверху да долу і з усіх бакоў. У вітрыну змяшчалі ўсё самае прыгожае: крыштальныя куфлі, фарфор, распісаны ўручную. Гэты прадмет мэблі, па сутнасці, не мае задняй сценкі, таму ён часта знаходзіўся ў цэнтры пакоя і выконваў важную дэкаратыўную функцыю.

## Фоташтрых


*Шафа (XVII ст.).*

Шафа-вітрына — разнавіднасць горкі, якая ў XVI ст.ператварылася ў твор мастацтва: тут увасобілася высокае майстэрства разьбяроў па дрэве. Мірская шафа-вітрына зроблена ў Заходняй Еўропе ў канцы XIX — пачатку XX ст. Ручкі на скрынях і дзверцах каваныя, верхняя частка шафы мае форму піраміды.

Каб па-сапраўднаму ацаніць прыгажосць і вытанчанасць прадстаўленай у замку мэблі, неабходна завітаць у Мір!

**Юлія БЯЗНОСІК,**
**навуковы супрацоўнік музея «Замкавы комплекс “Мір”»**

## Млын навін

# Пляцоўкі для натхнення

Магілёў, дзе ў верасні адбудзецца III Нацыянальны форум «Музеі Беларусі», стане на некалькі дзён музейнай сталіцай Беларусі. Тут будуць прадстаўлены сотні музеяў краіны, прыедуць спецыялісты з Эрмітажа, Траццякоўскай галерэі, Нацыянальнага мастацкага музея Кітая...

Гасцей чакае тур па «залатым музейным кальцы Магілёва», у межах якога будуць прадэманстраваны самыя розныя кірункі і віды мастацтва. Пляцоўкамі форуму стануць гарадская ратуша, краязнаўчы музей імя Е. Р. Раманава, музей этнаграфіі, мастацкі музей імя П. В. Масленікава. Плануецца задзейнічаць патэнцыял Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай працы ды каледжа мастацтваў.

Дарэчы, летась музеі рэгіёна наведалі больш як паўмільёна чалавек. Сёння гэта не проста сховішчы прадметаў мастацтва і арт-аб'ектаў — пляцоўкі для натхнення родным краем і светам. За апошнія гады былі створаны цікавыя экспазіцыі, закуплены новыя экспанаты, палепшылася матэрыяльна-тэхнічная база ўстаноў.

* * *

Пазнаёміцца з унікальнымі экспанатамі запрашае Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах. На выстаўцы «Жаночы сусвет» прадстаўлены традыцыйныя беларускія касцюмы, ручнікі, наміткі з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, якія захоўваліся ў запасніках.

Самаробныя тканіны ўвабралі ўсё багацце народнай культуры, самабытнасць і гармонію. Ткацтва было не толькі жыццёва неабходным заняткам, але і сродкам адлюстравання эстэтычных уяўленняў нашых бабуль, прасторай для творчасці. У экспазіцыі — найлепшыя работы беларускіх майстрых Брэсцкай вобласці, большасць з якіх не экспанаваліся.

* * *

Водны сезон на Аўгустоўскім канале адкрыўся ўчора Міжнародным спартыўным фестывалем «Нёманская вясна». Фэст праходзіць па турысцка-прыкладному мнагабор'ю ў тэхніцы воднага турызму на рацэ Асташанка каля вёскі Нямнова. Удзел бяруць каля 300 актывістаў з Беларусі, каманды з Расіі, Украіны, Польшчы…

Спартсменаў і аматараў чакаюць спаборніцтвы на байдарках (каяках, каноэ) і катамаранах у асабістым ды камандным заліках. У праграме — забаўляльныя мерапрыемствы, конкурс фільмаў пра водны турызм, канцэрт аўтарскай песні.

* * *

На агароджы парка дзяржаўнай гісторыка-культурнай установы "Гомельскі палацава-паркавы ансамбль" экспануецца выстаўка аўтарскіх фотаработ мастака, дызайнера і рэстаўратара Уладзіміра Цвірко «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі» .

Адно з захапленняў творцы — вандроўкі, падчас якіх ён сфатаграфаваў амаль усе гістарычныя помнікі нашай краіны і ўпэўніўся ў тым, што іх абавязкова павінны ўбачыць жыхары Беларусі, замежныя госці. З гэтай мэтай быў распрацаваны праект «150 залатых маршрутаў маёй Беларусі», дзе сабраны звесткі пра нашу найбагацейшую архітэктурную спадчыну.

Выстаўка ўключае 30 аўтарскіх фатаграфій на пластыку і дэманструе аматарам падарожжаў, што дзеля новых уражанняў зусім неабавязкова адпраўляцца за мяжу — дастаткова даследаваць малавядомыя гістарычныя месцы і помнікі гісторыі роднай зямлі.

* * *

А ў палацы Румянцавых і Паскевічаў Гомельскага палацава-паркавага ансамбля адкрылася выстаўка «Керамічны цуд з гжэлі», дзе прадстаўлены творы педагогаў і студэнтаў факультэта дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і дызайну Гжэльскага дзяржаўнага ўніверсітэта (Расія).

Гжэль — назва акругі ў Раменскім раёне Маскоўскай вобласці. Паселішча спрадвеку славілася сваёй глінай і адмысловымі майстрамі. У тутэйшым універсітэце беражліва захоўваюць традыцыі народнага промыслу і перадаюць досвед з пакалення ў пакаленне праз вучэбна-творчую дзейнасць.

# Выклік прыняты

**Калі беларускі мастак Руслан Вашкевіч ладзіць выстаўку, то гэта не проста так. Творца асацыюецца ў свеце мастацтва з несуцішным рухам, сэнсавай правакацыяй і арыгінальным майстэрствам. Гэта чалавек, які не можа доўга трымаць у сабе назапашаную буру эмоцый. Пасля пяці гадоў маўчання ў мастацкай галерэі «Дом карцін» стартаваў новы канцэптуальны праект «Канал Культура».**

Выставачная прастора стала адзінай, даволі шматграннай і нават заблытанай, у форме лабірынта, тэрыторыяй мастацтва, дзе ёсць месца для вострых тэм, смелых тлумачэнняў, сімвалізму. Амаль усё, што прадстаўлена, — інсталяцыі, арт-аб'екты. Іронія разам з пераасэнсаваннем. Руслан Вашкевіч кадрыруе рэальнасць па-свойму, звяртаючы ўвагу на тое, пра што мы звычайна маўчым, прымушае зірнуць на прадметы пад незвычайным вуглом. Засілле поп-культуры альбо прымітыўнасць гламуру, тыпізацыя рэальнасці ці прычосванне вострых вуглоў? Пазбаўцеся гэтага.

Руслана Вашкевіча называюць «рэжысёрам масавых беспарадкаў». У яго творчай біяграфіі значацца такія нашумелыя праекты, як маскоўскі *Second Second Hand*, «Радыус Нуля» на мінскім заводзе «Гарызонт», уварванне ў прастору Нацыянальнага мастацкага музея, Кастрычніцкай плошчы, палаца Румянцавых-Паскевічаў... У кожнай працы мастака праглядаецца спроба пераасэнсаваць каналы культуры, знайсці кропкі судакранання паміж яе носьбітамі, навучыць адкідаць лішняе, пазбаўляцца межаў успрымання. Усе экспанаты выстаўкі ў Доме карцін звязаныя паміж сабой. Іх нельга падзяляць. Толькі зразумець.

## ФІГУРЫ, ЯКІЯ ЗНІКАЮЦЬ, АБО ЗДАБЫЦЬ ВОЛЮ

Адна з мастацкіх серый на выстаўцы, ужо добра вядомая, — «Шкала Рыхтэра». Руслан Вашкевіч праецыруе на некалькі палотнаў фірмовы прыём жывапісу нямецкага авангардыста, яго фотарэалістычнае «ліставанне» са змазваннем карцінкі. Сэнс серыі з васьмі (столькі балаў на знакамітай шкале) палотнаў — гэта пошук трывалай стратэгіі творцы ў няўстойлівым свеце, зменлівых лакацыях, сацыяльных, палітычных, мастацкіх. Інсталяцыя «План уцёкаў» — малюнак чорным на шкляных пласцінах. З круга, што сімвалізуе стэрэатыпы, выскоквае дзяўчына. Гэта намёк на тое, што ў кожнага з нас заўсёды існуе запасны выхад, які дае збавенне ад унутраных праблем. Не, гэта, канечне, не выхад у акно.

## ЭФЕКТ БОМБЫ

У пачатку выстаўкі «Канал Культура» стаіць зэдлік з выбухоўкай як праекцыя эфекту ад інсталяцыі. Многія яшчэ на ўваходзе могуць абурыцца карцінай «*sextourism.by*», што выклікала шквал крытыкі ў інтэрнэце. Маўляў, хіба так можна казаць? Гэта ж пра сваю краіну… Руслан Вашкевіч не прымае ханжаства ні ў якім выглядзе. На самай справе гэтая карціна нагадвае білборд і прысвечана недарэчнасці рэкламавання нацыянальнай культуры. Карціна «Канец свету», якая нагадвае неонавы салют, таксама прыклад таго, як няўмелае абыходжанне з культурай можа прывесці да недарэчнасці любых з'яў.



Руслан Вашкевіч падчас інтэрв'ю.



Сімбіёз жывапісу і аб'ектных інсталяцый — адна з галоўных рыс выстаўкі.

## СТОП-МАШЫНА

Карціна «Мост» — ілюстрацыя сямейнага скандалу, калі паміж мужчынам і жанчынай утвараецца перашкода, якую трэба перайсці. Гэта істэрыка, эмоцыі і два чалавекі, што трымаюць «канструкцыю» да той пары, пакуль у аднаго з іх не пераможа разум.

Праект «ХЭ» выглядае як размалёўка для дарослых, руйнуючы стэрэатып пра тое, што жывапіс — гэта колер. Падрамнікі і палотны ёсць. Чаго ж не хапае? Вобразы вельмі карыкатурныя, але фішка не ў гэтым. Руслан Вашкевіч прапануе інтэрактыў у культуры. Кожны наведвальнік можа размаляваць копіі яго малюнкаў сам і прыўнесці ў іх асабісты сэнс. Словам, выказацца. Кожны колер — новая сутнасць. «ХЭ» — гэта не спроба паарыгінальнічаць, а праверка мастацтва на трываласць.

## ВУГАЛ ПРАГЛЯДУ

Адна з самых вядомых работ, прадстаўленых у Доме карцін, — «Нягледзячы ні на што». Цэнтральным звяном выступае палатно, з якога за невядомай кропкай уніз назіраюць чатыры героі, падобныя на серыяльных персанажаў, суседзяў, пасажыраў аўтобуса, словам, звычайных абывацеляў. Карціна падарожнічала па розных месцах, дзе, здавалася б, няма часу для мастацтва: ад морга, могілак да дзіцячага садка і стрыптыз-клуба, ад гіпермаркета да смеццевай звалкі, ад царквы да турмы. Гэтай карціне не месца ў музеі, ёй трэба штосьці паказваць, як жывой. Дзіўна, але ў залежнасці ад таго, куды глядзяць героі, эмоцыі на іх тварах, здаецца, мяняюцца, агіда плаўна пераходзіць у захапленне, а страх — у зацікаўленасць.

## ЛАМАНАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

Праект «Тайная архітэктура. Кветкі зла» — яскравы прыклад гульні з прасторай і матэрыяламі. Серыя работ спачатку нагадвае чорна-белыя вітражы, потым — рэнтгенаўскія здымкі, а пры дэтальным знаёмстве — чалавечыя косткі, пераламаныя ў розных «ракурсах». Гэта эксперымент, мастакі пошук, які кажа нам: каб зразумець пэўную рэч ці з'яву, недастаткова паглядзець на яе адзін раз.

«Канал культура» — не проста выстаўка, а серыя мерапрыемстваў на працягу двух месяцаў. Да канца мая можна пазнаёміцца з не менш смелымі, чым інсталяцыі, фільмамі, творчасцю незалежных музычных гуртоў, размовамі крытыкаў і культуролагаў, паўдзельнічаць у дыскусіях. Канал — гэта трывалы спосаб сувязі, а культура — вечная пляцоўка для камунікацый.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

# Сэнс не ў словах

**Выставачны праект Валерыя Песіна «Ціхае жыццё» прадстаўлены ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47). Экспазіцыя ўключае 12 твораў жывапісу — стрыманых, нешматслоўных, але вельмі лірычных. Прынцып лаканічнасці ў мастацтве аўтара не адцягвае ўвагу ад галоўнага — сэнсу. Адсутнасць яскравасці і разнастайнасці тычыцца і форм выражэння, і колераў. Менавіта так мастак падкрэслівае выразнасць асобных вобразаў. Абстрактныя формы суадносяцца з рэалістычнымі элементамі прыроднага, чалавечага свету. Шмат месца займае «паветраная», белая прастора. Карціны дыхаюць.**

Многія работы пакідаюць адчуванне адзіноты, але не разбуральнай, а гарманічнай, якая вядзе да поўнай свабоды, збавення. Спыніцеся на хвіліну і адчуйце цішыню сярод бурлівай плыні жыцця. Аўтар адсякае ўсё лішняе, высвечвае чалавека, які сядзіць да нас спіной, акно, сухое лісце. Валерый Песін прызнаецца, што для яго абсалютна няважна, якая падлога альбо сцяна знаходзяцца за намаляваным аб'ектам. Галоўнае — сам факт яго існавання.

Валерый Песін — яркі прадстаўнік нонканфармістаў у жывапісе 1980 — 1990-х гадоў. Ён належыць да таго шэрагу беларускіх аўтараў, якія прыўнеслі ў беларускі жывапіс тэндэнцыю асабістай інтэрпрэтацыі рэчаіснасці, пазбаўленую ідэалогій, межаў, шаблонаў.

**Марыя ВОЙЦІК**



# Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ: «Народная песня — гэта малітва»

**Кажуць, з песні слоў не выкінеш. Асабліва з беларускай народнай. Мы ўспрымаем родную культуру праз малюнкі ці арнаменты на зрок, але лепш, калі мы ўспрымаем яе на слых — праз песню. З дзяцінства яна была ўкладзена ў памяць нашых бацькоў, а новае пакаленне ўспрымае яе, калі чуе матчыну мову і музыку — усё ж такі родная песня адгукаецца ў сэрцы, звязвае мінулае і сучаснасць, злітоўвае пакаленні. У Беларусі ёсць калектывы, якія гэтую сувязь пакаленняў усталёўваюць і развіваюць, і адзін з іх — народны хор імя Генадзя Цітовіча. Больш за 40 гадоў ім кіруе прафесар Міхаіл Паўлавіч Дрынеўскі, які дапамагае зразумець, чаму чалавеку неабходна ісці з песняй па жыцці.**



*Міхась Дрынеўскі ў харавой музыцы з 13 гадоў: кіраваў хорам калгаса «Труд» у роднай вёсцы Тонеж. Скончыў Гомельскае музычнае вучылішча, Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. З 1973 г. галоўны хормайстар, з 1975 г. — мастацкі кіраўнік народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1978), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1982), народны артыст БССР (1987), прафесар. Адзначаны шэрагам дзяржаўных узнагарод, сярод якіх медаль і ордэн Францыска Скарыны.*

## ПРА ЛЮБОЎ ДА ПЕСНІ

**— Міхаіл Паўлавіч, што для вас беларуская песня?**

— Для мяне народная песня — малітва. Там усё ёсць — такая квінтэсэнцыя жыцця чалавека. Кожны ў жыцці ўспамінае бога, а народная песня — гэта зашыфраваная малітва. Гэта жыццё, выжыванне, барацьба, жарсць, любоў да Айчыны, да чалавека, да зямлі — малітва не агітка, а малітва жыцця.

**— А калі вы зразумелі, што любіце песню?**

— З дзяцінства. Для гэтага было спрыяльнае асяроддзе: я жыў у вялікай вёсцы, там песня заўсёды гучала. Нават пасля вайны, калі і паесці не было чаго, людзі ў такіх цяжкіх умовах спявалі з ранку да ранку — і ў палях, і ў лесе. Маці ўспамінала, што і я спяваў, калі быў маленькі. Хтосьці з родных мне тады казаў, што «ты ўсё спяваеш, а не думаеш, можа, тату твайго на вайне забілі», а я на гэта адказаў: «Я спяваю, я і думаю». Ужо з тых часоў я песню палюбіў.

**— Як думаеце, навошта ў ваенны час спявалі?**

— Песня — надзея на выжыванне, на жыццё. Песня прыносіла больш спакою, была той саломінкай, якая выцягвала. Нездарма ж кажуць, што «песня нам строить и жить помогает». Яна надавала аптымізму.

**— Сфарміраванае пачуццё песні прыйшло да вас яшчэ ў дзяцінстве?**

— Свядома — у 13 гадоў. Я ўжо кіраваў хорам, дарослымі людзьмі. Як так сталася — сам не ведаю. Мы ўдзельнічалі ў конкурсах — гэта ўмацоўвала жаданне займацца музыкай. Я тады быў самавучкам, не ведаў нот, але патрэба ў музыцы жыла.

**— Што наконт вашых любімых песень? Ёсць асаблівыя?**

— Калі я рос, не думаў, які зарад нясе песня. Цяпер жа мяне натхняюць песні-роздумы, пра лёс чалавека. Калісьці я захварэў песняй «Як пайду я дарогаю...». Змест яе, на першы погляд, — нічога асаблівага, але калі ўслухацца, то зразумееш усё багацце. Калі такое слухаеш, душа становіцца больш чулай, больш чалавечнай.

**— Вашыя бацькі з музыкай звязаныя не былі. А як яны ставіліся да яе?**

— Бацька мой музыку за прафесію ўвогуле не лічыў. Казаў, што ў музыкі хлеб невялікі. Я памятаю, адной наччу бацькі гаварылі. Маці прасіла, каб бацька не перашкаджаў мне ў выбары прафесіі. Напэўна, гэта і дапамагло. Бацька больш лагодна да музыкі стаў адносіцца.

## ПРА ПЕСНЮ Ў НАРОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

**— Што для вас паняцце «народная культура»?**

— Усё багацце народа. Што ён умее, што зрабіў, робіць і будзе рабіць. Народныя майстры, усе нашыя рамеснікі… Культура вакол нас.

**— Ці можна ў беларускай песні ўбачыць душу культуры?**

— Гэта вельмі лёгка пачуць! Гэта інтанацыя: як мастак піша карціну, так і ў музыцы: хто валодае адчуваннем святлаценю, той мастак. У песні павінна быць «я ёсць інтанацыя» — трэба адчуць, як слова адцяніць.

**— Чым беларуская песня асаблівая і прывабная?**

— Любая народная песня — багацце, бо гэта гісторыя, мудрасць, талент народа, адлюстраванне менталітэту. Яна паказвае нацыю, культуру. А што можа быць больш багатага, як песня і мова? Канечне, у беларусаў няма такіх «разухабистых» песень, як, напрыклад, руския. Наш фальклор пачынаецца з такога нерадаснага «ой» — гэта адлюстраванне нашай гісторыі, цяжкага жыцця народа. Беларуская песня — чулая, шчымлівая, са слязьмі, меладычная, мяккая, з жаночым тварам.

**— А што для вас першаснае — музыка ці словы?**

— Я думаю, першаснае — слова. На добрыя словы цяжка напісаць дрэнную музыку. Калі слова захопіць кампазітара, музыка будзе неверагодная. Усё пачынаецца са слова, калі багатае, калі прымушае чалавека падумаць, яно галоўнае.

**— Як лічыце, ці можна выхаваць чалавека з дапамогай песні?**

— Не трэба быць верхаглядам, а трэба разумець. Песня адным словам усё не скажа, канечне, але колькі суперажывання і гістарычнай праўды яна нясе. Над народнымі песнямі трэба думаць, глыбока адчуваць, тады яны і адукоўваць могуць.

**— А як народная культура можа суадносіцца з акадэмічнай? Гэта магчыма?**

— Калі ўзяць архітэктуру, яна можа быць і народнай, і акадэмічнай. Але ўсё выйшла з народа, гэты фундамент трэба ўтрымаць: тая ж опера вырасла з народнай, готыка... Памятаю, Шырма хацеў, каб народная песня, сялянская, вырасла ў высакародную свецкую даму.

Валоданне інструментам — у гэтым справа. Памятаю, на фестывалі «Звіняць цымбалы і гармонік» аднойчы выступаў музыка з Магілёўскай вобласці. Ён граў на гармоніку — немагчыма было паўтарыць. Дасканаласць: народнае, прыземленае сутыкалася з высокім, акадэмічным, бо яго музыка гучала як арган. Талент і выкананне робяць з народнага акадэмічнае.

## ПРА ЎЗБАГАЧЭННЕ

**— А чаму вы абралі шлях «народніка»?**

— Дык я ж беларус! Можна сказаць, музыка мяне выбрала, мяне выбралі людзі. Я вучыўся на акадэмічным аддзяленні, бо іншага не было, стварыў акадэмічны хор і марыў працаваць у хоры акапэла. Але я пасябраваў з Цітовічам і Шырмам — зразумела было, што з народнай музыкі больш нікуды не сыду. Эстрада — гэта не беларускае. Я называю гэта ідэалагічным СНІДам. Чаму гэтаму вар'яцтву далі такі росквіт, не разумею. У музыкі павінна быць выхаваўчая роля. Зараз існуе нават праблема ў навучальных установах: на народнае і акадэмічнае аддзяленне конкурсу не існуе, у той час як на эстраду вялізныя конкурсы.

**— З чым гэта звязана? Чаму народ слухае эстраду?**

— Чым кормяць — тое і слухаюць. Людзі чамусьці не выбіраюць. Калі да мяне не даходзіць слова, не магу слухаць гэтыя песні. Сваім музыкам кажу заўсёды: «Слова трэба данесці — у слове ўся праўда». Там і змест, там і роздум, сэнс таго, што спяваем. Слова — першапачатковае. У народнай песні слова на вагу золата.

**— Узбагаціць песню — справа лёгкая ці гэта немагчыма?**

— Напрыклад, лявоніха — наш вогненны танец! На некаторых канцэртах яе выконваюць як пахавальны марш. Гэта ж немагчыма! Вось прыклад таго, як песню можна толькі пагоршыць зменамі. А ўзбагаціць — як дзяўчынку: выхоўваць як чалавека, шукаць новыя інтанацыі, галасы, вышываць на канве песні, але не вытраўліваць з яе сэрца змест і душу.

**— Ці можна «асучасніць» народную песню?**

— Зараз стала модна пакідаць тэму і змяняць словы. Але народная песня — векавая, можа быць сучаснай зараз і без апрацоўкі, калі яна сугучная жыццю чалавека і яго праблемам. Пытанні, якія ўздымаліся ў песнях раней, нікуды не падзеліся.

**— Ці можна народную песню напоўніць сэнсам, як гэта зрабіць?**

— На жаль, зараз усе лічаць сябе паэтамі і кампазітарамі, перапрацоўваюць народную песню так, што яе і не пазнаеш. Народная песня — помнік, і ніхто не мае права лезці ў яе з бруднымі рукамі і нячыстым сэрцам. Абагаціць яе — калі ласка, а вытраўляць яе душу нельга. Песня — жывая душа, трэба на «Вы» адносіцца да яе, з павагай.

## ПРА АДРАДЖЭННЕ НАРОДНАЙ ПЕСНІ

**— Адраджэнне народнай культуры магчымае, як лічыце?**

— Не трэба адраджаць! Яе трэба развіваць і ўзбагачаць! Калі даць народнай песні штуршок, яна сама сабой адродзіцца. Яе трэба песціць, тады і заквітнее. Ёй цяжка прабіцца праз эстраду, бо яе не круцяць на радыё ці па тэлебачанні. Цяпер народнае не пачуеш нават у вёсцы… За людзей зараз спявае радыёпрыёмнік.

**— Я памятаю, калі ў школе на ўроках музыкі спявалі беларускія народныя песні, вельмі іх любілі. А як вучыць людзей любіць песню?**

— Людзей трэба адукоўваць. Так, раней у школе быў урок «Музыка», а цяпер яго няма. У міністэрстве гэта аргументуюць тым, што дзеці стамляюцца ад спеваў, а мне здаецца, песня і ёсць адпачынак! Існуе нават статыстыка, што дзеці, якія займаюцца музыкай, больш сацыялізаваныя, актыўныя. У нас жа дзецям не прышчапляюць любоў да прыгожага. Кажуць, «заспявае школа — заспявае народ». А школа ўжо не спявае. Грамадства, і у тым ліку і я, ужо звярталіся да кіраўніцтва Міністэрства адукацыі і культуры наконт вырашэння вяртання спеваў у школы.

**— Як лічыце, народнае можа быць модным?**

— Калі гэта стане дзяржаўным пытаннем, тады абавязкова! Народная песня — прадстаўніцтва нацыі, а эстрада вытраўляе з яе душу. Трэба ў абавязковую праграму ў школе народную музыку ўключаць, тады і моднай яна стане.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

## Кінадыялог

Беларускі мастак-аніматар Валерый Казлоў узяў удзел у адукацыйным кінапраекце «8½», арганізаваным прэс-службай Міжнароднага ўніверсітэта «МІТСО». Мерапрыемства стартавала яшчэ ў кастрычніку мінулага года і з поспехам працягваецца. Раз у месяц студэнты могуць кантактаваць з прадстаўнікамі беларускага мастацтва — крытыкамі, рэжысёрамі, акцёрамі і артыстамі тэатра. А яшчэ — знаёміцца з шэдэўрамі сусветнага кінематографа, такімі як «Поўнач у Парыжы» Вудзі Алена ці «Гэта выдатнае жыццё» Фрэнка Капра, прымаць удзел у дыскусіях. Падобная ініцыятыва — добры стымул для інтэлектуальнага і культурнага развіцця.

Валерый Казлоў прэзентаваў 31 сакавіка падборку з сямі анімацыйных фільмаў, створаных у нашай краіне ў розныя гады (1970 — 2000-я), тых, што ўжо сталі класічнымі. У іх ліку — «Светлячок і расінка», «Дзяўчынка з запалкамі», «Як служыў жа я ў пана», «Чаго на свеце не бывае». Паказ адбыўся на ўжо традыцыйнай пляцоўцы, у кіназале інтэрната Прыватнага жылёвага фонду ВНУ.

Чаму менавіта «8½»? У прэс-службе «МІТСО» паведамілі, што паказаў поўнаметражных мастацкіх фільмаў у рамках кінапраекта было запланавана восем, плюс адзін кароткаметражны. «Дзень беларускай анімацыі» стаў шостым у серыі.

Адкрываўся праект дэманстрацыяй стужкі «Кароль гаворыць!» Тома Хупера, якую прадставіў акцёр тэатра і кіно, рэжысёр, тэле- і радыёвядучы Генадзь Фамін. Прайшла таксама сустрэча з рэжысёрам, прадзюсарам, сцэнарыстам, заснавальнікам кінашколы-студыі Андрэем Палупанавым. Ён пазнаёміў маладых гледачоў з рамантычнай камедыяй «Рымскія канікулы» Ульяма Уайлера. Студэнцкі кінатэатр наведалі таксама мастак, рэжысёр-пастаноўшчык у Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь Алена Мядзякова, артыст тэатра Генадзя Гладкова «Тэрыторыя мюзікла» Шамхал Хачатуран і інш.

Зусім хутка, 12 красавіка, у рамках кінапраекта можна будзе паглядзець фільм «12 разгневаных мужчын» Сідні Люмета. Пытанне аб тым, хто ж яго прэзентуе, пакуль застаецца інтрыгай.

Мерапрыемствы прысвечана 120-годдзю сусветнага кінематографа і Міжнароднаму дню кіно. Спіс фільмаў для прагляду складаўся сумесна з Ігарам Сукманавым, кінакрытыкам, дырэктарам праграм ігравога кіно Мінскага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад», а таксама конкурсу фільмаў для дзіцячай і юнацкай аўдыторыі «Лістападзік».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Cinema: палюбіць...

**З цягам часу пачынаеш разумець: глядзець папулярнае кіно і глядзець добрае кіно — не адно і тое ж. Дастаткова пасачыць за стужкамі, якія з'яўляюцца ў нашым пракаце. Не так часта іх якасць адпавядае размаху рэкламнай кампаніі. Напрыклад, нядаўна ў сталічных кінатэатрах літаральна «прагрукатала» прэм'ера «Дэдпула». Білетаў было не дакупіцца — усе кінатэатры запоўненыя. Гледачы ідуць на такое, каб пазбавіцца надакучлівых думак, каб крыху адпачыць, паглядзець на яркую карцінку.**
**Наш кінавідэапракат прапаноўвае стужкі модныя — тыя, якія паказваюць і ў іншых краінах. Гэта бяспройгрышны варыянт: фільмы абавязкова будуць цікавыя публіцы: па-першае, таму што гэта навінкі кінематографа, па-другое, яны ўжо нядрэнна распіяраныя. Адпаведна — касавыя. Але патрабавальны глядач будзе шукаць іншае кіно, якое задае пытанні і шукае адказы, адлюстроўвае час і прапаноўвае аўтарскі погляд на рэчаіснасць, ён будзе шукаць у кіно мастацтва. Такі глядач пойдзе на альтэрнатыўныя паказы, на кіно для тых, хто хоча глядзець фільмы выключна якасныя, так бы мовіць, «для гурманаў». І ў нас ёсць дзе іх убачыць.**

### САМ-НАСАМ З ШЭДЭЎРАМ

Зараз у Беларусі, прынамсі ў Мінску, даволі шмат месцаў, дзе можна паглядзець фільмы, якія ў кінатэатрах ужо не ўбачыш. Кінакрытык **Людміла Саянкова** адзначае:

— Такія пляцоўкі звычайна збіраюць «сваю» аўдыторыю: людзі ідуць туды свядома, выбіраючы кіно адмысловага вектара. На такія паказы варта схадзіць хаця б дзеля клубнай атмасферы, пабыць у гэтым асяроддзі. Але ўсё ж такі публіку, якая ходзіць на мэйнстрымнае кіно, тут не ўбачыш — звычайна гэта так званы «падрыхтаваны глядач», ён прыходзіць узбагачацца мастацтвам. Альтэрнатыўныя пляцоўкі ў той жа час — добрая магчымасць дагрукацца да кожнага гледача.

Альтэрнатыўныя кінапляцоўкі з'яўляюцца паўсюль, і адзін з добрых прыкладаў — *Cinemascope* ў кінатэатры «Ракета». Чым праект адрозніваецца ад звычайных паказаў? Напэўна, тым, што кожны жадаючы можа пазнаёміцца з фільмамі як сусветнай кінакласікі, так і са стужкамі пачынаючых рэжысёраў, але гэта кіно аўтарскае, дзе бачны почырк таго, хто яго стварыў, дзе ёсць дух эксперымента.



*Падзея сакавіка ў кінажыцці Беларусі: паказ фільма-папярэджання «Лобстар» рэжысёра Ёргаса Ланцімаса.*

У сакавіку *Cinemascope* знаёміў гледачоў з «Лобстарам» Ёргаса Ланцімаса, «Лалітай» Стэнлі Кубрыка, «Алісай у гарадах» Віма Вендэрса. Пагадзіцеся, гэта тыя фільмы, якія заўжды хочаш паглядзець, дадаеш у закладкі, але да самага прагляду рукі ніяк не даходзяць. Для такіх выпадкаў і існуе *Cinemascope* — невялікая ўтульная зала ў «Ракеце», дзе можна пабыць быццам самнасам з кінашэдэўрам, да таго ж усе фільмы абавязкова на мове арыгінала з субцітрамі (нагода вывучыць замежную мову). Але на гэтым арганізатары не спыняюцца — спрабуюць знаёміць публіку не толькі са стужкамі, але і з гісторыяй кінематографа, таму праводзяць тэматычныя вечары кшталту «Гісторыя эксперыментальнага кіно» ці расказваюць пра дзейнасць якоганебудзь выдатнага рэжысёра (з 31 сакавіка па 4 мая, напрыклад, пройдзе тыдзень Альфрэда Хічкока).

### УСПОМНІЦЬ НЯМОДНАЕ

У тых, хто спазніўся на кінафестываль «Лістапад», таксама ёсць магчымасць дагнаць час — праект «Нямодны Лістапад». Чаму ён «нямодны»? Таму што заснавальнікі праекта рэкамендуюць да прагляду самыя непапулярныя стужкі з кінафестывалю — дакументальныя, якім увагі ад гледача ніколі не хапае. На жаль, жанр неігравога кіно пакуль што ў Беларусі не набыў еўрапейскай цікавасці і важкасці, таму ў нас ёсць задача папулярызаваць дакументальнае кіно. Адзін з варыянтаў — «Нямодны Лістапад».

На старонцы праекта ў сацыяльных сетках можна ўбачыць анонсы не толькі на паказы стужак беларускіх аўтараў, не толькі неігравых фільмаў, але і проста добрага, але чамусьці забытага кіно: тут і «Тато і яго сёстры» Аляксандра Нанаў пра гісторыю дзяцей, якія засталіся без маці, і «Раптоўна мае думкі спыніліся» Жоржы Пелікану пра жыццё ў псіхіятрычнай клініцы, і пераможца кінафестывалю «Лістапад» — «Беларускі псіхапат» Мікіты Лаўрэцкага.

Заснавальнік праекта **Максім Сырэц** адзначае, што «Нямодны Лістапад» — проста «хуліганскі кінаманскі праект для таго, каб людзі звярнулі ўвагу на дакументальнае кіно»:

— Вядома, хочацца, каб людзі глядзелі і бачылі крыху больш, чым бачаць дома. Тым больш што мы прапаноўваем цікавае, а самае галоўнае, важнае і актуальнае кіно. Яго павінны бачыць і не толькі спажываць, але і рэфлексіраваць, усведамляць рэчаіснасць праз стужкі.

### КАФЭ ЯК КІНО

Ёсць у нас і кінаклубы: у Інстытуце журналістыкі БДУ (дзе некаторыя стужкі нават прадстаўляюць самі рэжысёры), у рэдакцыі газеты «Звязда». А ёсць «Кінаклуб.org», дзе можна пазнаёміцца з фільмамі кожны раз рознымі: ад роад-муві да кібер-кіно, стужкамі, якія хваляюць праграмістаў, адным з арганізатараў якога з'яўляецца **Ліна Мядзведзева:**

— Нам важна паказаць шырокі дыяпазон магчымасцей кіно. Менавіта разнастайнасць, кантраст і адценні — тое, што можна ўбачыць і ў кінаклубе, і на фестывалі кароткаметражнага кіно, які мы праводзім.

З шэдэўрамі сусветнага кіно ў Мінску можна «сустрэцца» цяпер і ў многіх кафэ — яны таксама сталі браць на сябе абавязак знаёміць наведвальнікаў з якаснымі фільмамі.

Арт-кафэ *Chaplin* паказвае кіно кожны дзень — назва абавязвае. У панядзелкі, напрыклад, там убачыш кінаэпапеі, аўторак — вечар арт-хауса, серада — дзень для ўсіх закаханых і проста рамантыкаў, а па выхадных у *Chaplin* глядзяць баевікі і камедыі і адмысловыя паказы казак і мульцікаў для дзяцей.

«*Grindhouse Movie Night*» — легенда клуба *RE:Public*. Калі вы здольныя не спаць усю ноч дзеля, скажам, трох фільмаў Таранціны, вам сюды. Толькі шэдэўры, культавыя стужкі, якія ўжо набылі вядомасць, цікавыя факты пра рэжысёраў і іх кіно, — іншага не ўбачыш. Акрамя таго, два месяцы там ішлі паказы амерыканскіх фільмаў на беларускай мове. Па словах арганізатара праекта **Яна Максімовіча**:

— Мы хочам паказаць гледачам, што існуе андэрграўнд і стужкі, пра якія ў рускамоўных краінах не ведаюць, каб людзі глядзелі, што адбываецца з кінематографам, як трансфармуюцца жанры. Публіка надта прывыкла да таго, што круцяць у звычайных кінатэатрах. А тут можна знайсці шмат незнаёмага, фільмы прымушаюць задумацца.

«*Loft Cafe*», якое часта называюць пляцоўкай для маладога беларускага кіно, таксама збірае аматараў кіно незвычайнага. Для арганізатараў галоўны крытэрый — глядач, а не імя рэжысёра ці касавыя зборы. У Лофце можна паглядзець як мюзіклы кшталту «Бурлеска», так і навукова-папулярныя стужкі.

Было б дзіўна хоць раз не паглядзець фільм у бары з гаваркой назвай «*Tarantino*». Акрамя стужак самага Квэнціна Таранціны, паказваюць і кіно іншых вядомых рэжысёраў, напрыклад, Марціна Скарсэзэ. Кіно культавае і сапраўды добрае — вось галоўны крытэрый арганізатараў.

### ГЛЯДЗЕЦЬ ДОМА

Калі якасных фільмаў хочацца, а выходзіць з дома — не, то вось варыянт для асабліва лянотных: «Вы яшчэ нічога не бачылі» і «Маладое кіно Беларусі». Так называюцца старонкі ў сацыяльнай сетцы «Укантакце», дзе кінааматары прапануюць да прагляду (ды яшчэ і рэцэнзуюць!) часам невядомыя, але важныя стужкі: «Рускі дзяцел» Чад Гарсія, «Воўчая зграя» Крыстал Мозэл, «Выпадак з пацаном» Сяргея Лобана, «Легенда пра Машэку» Аляксандры Вішнявецкай. Для многіх з нас назвы гэтых фільмаў не кажуць нічога, але яны вартыя, каб іх ведалі і глядзелі, кажа кіраўнік супольнасцей **Максім Карпіцкі:**

— Маладыя беларускія рэжысёры ёсць! Нам не хапае магчымасцей убачыць іх фільмы, а ім — данесці стужкі да гледача. Я ж спрабую злучыць адных з другімі. Важна паказаць аўдыторыі стужкі, якія не пакідаюць абыякавымі, нават калі яны недасканалыя. Фільмы павінны кранаць жывы нерв.

Усё ж такі галоўная функцыя кіно — прышчапляць чалавеку густ. Нездарма ж кажуць пра прагляды стужак: «дакрануцца да прыгожага». Часам гэтае «прыгожае» назвы такой не апраўдвае, а, наадварот, прымушае задумацца ў яе дакладнасці. Любоў да кіно якаснага, як у фільме Бернарда Берталучы «Летуценнікі», павінна ісці па адным шляху з чалавекам.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# На мяжы пачуццяў

## У Магілёве натхняліся «M@art.кантактам»

**Яшчэ на пачатку фестывалю арганізатары папярэдзілі, што называць лепшых і прысуджаць Гран-пры не будуць. Маўляў, глядач сам зробіць выбар. Так і адбылося. Адзінаццаты па ліку фестываль, безумоўна, запомніцца спектаклем «Жыццё за цара» тэатра Дзі Капуа з Санкт-Пецярбурга. Нават у рамках такога шчодрага на эксперыменты фестывалю, як «M@art.кантакт», ён стаў адкрыццём. За гады існавання форуму было ўсё: вадэвілі, буфанады, вулічныя спектаклі, пластыка, харэаграфія, добрыя класічныя пастаноўкі, нават трагіфаршы, але дакументалістыкі, ды яшчэ ў такой форме, дакладна не было. Спектакль, заснаваны на лістах, закліках, выступленнях на судзе, мемуарах, пакінутых членамі партыі «Народная Воля».**



Фота Галіны Гаўрыловіч.

Ілона Маркарава ў спектаклі «Жыццё за цара».

Магілёў стаў першым горадам, дзе «Жыццё за цара» паказалі сярод музейных экспазіцый. Сваю тэрыторыю гасцям прадставіў магілёўскі этнаграфічны музей. Дзеля мастацтва спатрэбілася разабраць частку экспазіцый, але гэта таго каштавала. Гледача спачатку запрасілі ў залу на першым паверсе, дзе прадстаўлены сялянскі быт, адтуль дзеянні перамясціліся ў падпольную фоталабараторыю, а потым у дваранскую гасціную. Было рэальнае адчуванне, што ты перанёсся на два стагоддзі ў мінулае і нябачна прысутнічаеш у прыватнай кватэры сярод нейкіх экзальтаваных асоб. Таямнічы паўзмрок, чырвоны, як кроў, абажур над сталом, пах хвоі і мігаценне свечак на навагодняй ёлцы. Нават пасля спектакля не адразу прыходзіш у сябе. Вочы паступова прывыкаюць да святла, а свядомасць вяртаецца на зямлю. Артысты працуюць на разрыў і пасля спектакля не адразу выходзяць з вобраза.

— Мы ніколі не паказваем гэты спектакль на сцэне, толькі ў кватэрах, — кажа адзін з «народавольцаў» Павел Міхайлаў. — Ён і ствараўся ў кватэры — майстэрні Андрэя Жукава. Музей стаў ідэальным памяшканнем, нам было тут вельмі камфортна, бо ўсё супадала па сэнсе.

— У нас цэлая праблема з паказам гэтага спектакля, а тут сапраўдная ўдача, — дадае Андрэй. — Гэта сапраўдная кватэра XIX стагоддзя, народавольцы ў такіх і жылі. Сярод іх былі і простыя сяляне, як Андрэй Жалябаў ці Макар Цяцёрка. І ў той жа час Соф'я Пяроўская — дачка губернатара. Яны павінны былі хавацца, таму бадзяліся па розных адрасах — і па асабняках, і па дворніцкіх.



Сцэна са спектакля «Раскас».

Шчыра парадаваў магілёўскі рэжысёр лялечнага тэатра Ігар Казакоў. Яго спектаклі заўсёды адрозніваюцца нестандартным падыходам і заваёўваюць прэстыжныя міжнародныя ўзнагароды, а «экзістэнцыяльная драма ў двух актах адчаю» «На дне» стала адной з творчых знаходак фестывалю. На сцэне напалову лялькі, напалову людзі — такога Горкага яшчэ ніхто не бачыў. У спектаклі выкарыстоўваецца прынцыпова новая для магілёўскага тэатра і, магчыма, для ўсёй краіны сістэма лялек. Стварaліся яны непасрэдна ў тэатры пры ўдзеле мастачкі Таццяны Нерсісян. Нездарма моладзь назвала яе лепшым сцэнографам фестывалю. Па сутнасці акцёры тэатра таксама прадэманстравалі высокі клас. Бо, каб зліцца з гэтымі лялькамі, трэба было таксама добра папрацаваць. Затое вынік уразіў. Адна рука лялечная, другая жывая — гэткія жывыя мерцвякі. Тое, што адбываецца на сцэне, чапляе з першых хвілін. Чалавек, які па Горкаму павінен гучаць горда, у Казакова выклікае агіду. І бачны працэс, як ён сябе да гэтага даводзіць. Нездарма Ігара назвалі смелым рэжысёрам. Яго спектакль — сапраўдны крык душы.

Рэкорд па колькасці надпісаў на спецыяльнай сцяне «M@art.кантакту» ў драмтэатры паставіў спектакль «Раскас», ці, як ён быў заяўлены ў афішы, «выязны спектакль-канцэрт сельскай самадзейнасці ў сямі частках» Маскоўскага драматычнага тэатра «Сфера» прайшоў на «ўра». Скарыў гумар, уласцівы апавяданням Васіля Шукшына, адпаведнасцьтойэпосе,непасрэднасць герояў.

Былі і расчараванні чыста з глядацкага пункту гледжання. І ўсё ж такі, нягледзячы на дасягненні і промахі, фестываль пакінуў добрыя ўражанні. На прасягу тыдня здзіўляў, шакіраваў, радаваў. «"M@art.кантакт" — гэта свята для горада, — так дакладна перадаў яго прызначэнне дырэктар драматычнага тэатра Андрэй Новікаў. — Ён цалкам акупляе сябе і застаецца пры гэтым цікавым як аматарам, так і прафесіяналам». А яшчэ, як адзначалі крытыкі, фестываль стаў добрым трамплінам для такіх беларускіх зорак сучаснага маладога тэатра, як Ігар Казакоў, Кацярына Аверкава, Таццяна Траяновіч, Яўген Карняг.

**Нэлі ЗІГУЛЯ**

# Лічбы Дня

Гэты цудоўны-цудоўны дзень 27 сакавіка: паяднаў тых, хто ў тэатры працуе, з тымі, каго там заўсёды чакаюць. Свята ўсіх акцёраў і гледачоў, Сусветны дзень тэатра, быў заснаваны ЮНЕСКА ў 1961 годзе для таго, каб падкрэсліць сілу гэтага мастацтва ва ўзаемаразуменні народаў.

На канец 2015 года ў рэспубліцы працавала 28 прафесійных тэатраў розных жанраў, з якіх 19 драматычных і музычных, 8 — дзіцячых і юнага гледача, 1 — оперы і балета. Толькі 10 прафесійных тэатраў працуюць у сталіцы краіны, усе іншыя тэатральныя калектывы радуюць жыхароў розных рэгіёнаў. У Віцебскай і Мінскай абласцях працуюць па 2 прафесійныя тэатры, у Гродзенскай і Магілёўскай — па 3, Брэсцкай і Гомельскай абласцях — па 4.

Прафесійныя тэатры Беларусі ў 2015 годзе правялі 8,9 тысячы спектакляў, канцэртаў, творчых вечароў. Амаль трэцяя частка з іх прыйшлася на прафесійныя тэатры, якія працуюць у Мінску.

Рэпертуар тэатраў у 2015 годзе склаў 1011 спектакляў, з іх 342 пастаноўкі паводле твораў беларускіх аўтараў. За мінулы год гледачу прадставілі 123 новыя пастаноўкі. Усе тэатры Беларусі імкнуцца выхоўваць свайго гледача. Летась у рэпертуары прафесійных тэатраў было 426 пастановак дзіцячых спектакляў (гэта 42,1% усяго рэпертуару тэатраў).

Глядач адгукаецца. Па выніках мінулага года, тэатры рэспублікі наведалі 1 792,2 тысячы гледачоў, амаль палова з іх прайшла ў тэатры Мінска. Айчынных гледачоў можна назваць у пэўным сэнсе гурманамі: першынства па колькасці наведвальнікаў трымае Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета (13,7% глядацкай актыўнасці). Музыка дапамагае ўспрымаць спектакляў — другое месца за Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатрам (8%), трэці па папулярнасці ў гледачоў — Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (4,5%).

# Палёт над будзённасцю



Вы на борце лайнера. На пачатку палёту прывабныя сцюардэсы разносяць на падносах па салоне цукерачкі-смакталкі. Падымаеш галаву, каб узяць — о!.. Перад табой Валянціна Гарцуева, актрыса Купалаўскага тэатра. У іншых баках залы (салона) такая ж рэакцыя на купалаўскіх сцюардэс, якім выпала права ўзняць над будзённасцю наведвальнікаў капусніка, прысвечанага Міжнароднаму дню тэатра. Рабілі яны гэта разам з «капітанам» — народным артыстам Беларусі Генадзем Аўсяннікавым.

Тэатральныя капуснікі ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Янкі Купалы маюць даўнія традыцыі. І заўсёды цікавяць тым, што падчас такіх адвольных прадстаўленняў артысты могуць і сябе паказаць з нечаканага боку, і свае ідэі рэалізаваць (хоць калісьці можна не толькі рэжысёраў слухаць), выказаць усё, што хвалюе ў крэатыўнай неардынарнай форме. І задаць такі настрой, каб потым хацелася хадзіць у тэатр увесь наступны год. Бывала, што некаторыя капуснікі «купалаўцаў» ішлі за асобны спектакль.

Супрацоўнікі тэатра пацвярджаюць свой узровень. З гэтым пагаджаюцца VIP-пасажыры борта. Напачатку міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў уручыў узнагароды і граматы міністэрства лепшым артыстам і супрацоўнікам з 10 тэатраў усёй нашай краіны. Прынамсі, нагрудны знак Міністэрства культуры «За ўклад у развіццё культуры Беларусі» атрымалі артыст Купалаўскага тэатра Павел Харланчук-Южакоў і артыстка Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Алена Шарэпчанка.

Борт набраў патрэбную вышыню — палёт пайшоў па зададзеным маршруце, калі можна было з вышыні паназіраць за той тэатральнай рэчаіснасцю, што схаваная ад вачэй. Напрыклад, як маладыя хлопцы збіраюцца на «службу»: ці то ў трагікі, ці то ў комікі, але рэзаніраваць умець тут трэба, трэба рабіць пліе (калі яно абгрунтаванае), і ёсць магчымасць калі-небудзь здаць на «крапавае жабо»… Калі яшчэ артысты «адарвуцца» і выкажуцца на тэму сваёй «нябачнасці» для рэжысёраў, з-за якой шмат хто сыходзіць у сумніўныя эксперыменты? Капуснік — той эксперымент, які дае патрэбную разрадку, каб працаваць далей у пэўным рэжыме. А яны гэта ўмеюць. Яны ўмеюць пасмяяцца там, дзе (нам са свайго боку) не смешна: сёння ўсе павінны змагацца за заробак, і тыя, хто грае бурацін і чабурашак. Яны жартуюць наконт агульнага танажу трупы (у параўнанні з танажам слана ў заапарку) і акупляльнасці працы аднаго і другога. У іх безліч думак пра тое, чым можна гандляваць у тэатры, каб зрабіць яго прыбытковай арганізацыяй. У іх бездань таленту. Значыць, палёт і далей будзе нармальны, пра гэта сведчыць акцёрскі патэнцыял Купалаўскага.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Мастацкая вобразнасць і індывідуальны падыход

## майстроў лапікавага шыцця Беларусі і Латвіі

**У старажытныя часы людзі беражліва ставіліся да тканіны. Пасля пашыву адзення, прадметаў бытавога выкарыстання — штор, абрусаў, покрываў — збіралі і захоўвалі маленькія абрэзкі. У выніку з іх стваралі новыя арыгінальныя рэчы. З часам такія маніпуляцыі з палатном пачалі называцца тэхнікай лапікавага шыцця.**

Лапікавае шыццё заўсёды з'яўлялася элітным відам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Нават царскія сем'і займаліся ім. Пасаг нявесты лічылі добрым, калі коўдры, падрыхтаваныя бацькамі, складаліся з вялікай колькасці кавалачкаў тканіны, а хата, дзе на сценах віселі дываны з дарагіх кавалачкаў матэрыі, была багатай. Сёння лапікавае шыццё ператварылася хутчэй у хобі і атрымала сучасныя, тэндэнцыйныя назвы: абрэзкавая мазаіка, заплатка, пэчворк, квілт. Апошнія замежныя словы няёмка гучаць датычна беларускага майстэрства, прыметнік «лапікавае» падыходзіць больш.



З адкрыцця выстаўкі «Трыкатажныя куплеты — 2016».

У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» прадстаўлены Міжнародны дабрачынны праект «Трыкатажныя куплеты — 2016». У аснове экспазіцыі — лапікавыя пано беларускіх і латвійскіх аўтараў. Работы латвійцаў прадстаўлены ў мінімальнай колькасці, вялікую плошчу выставачнай прасторы занялі беларускія кампазіцыі.

Тэхніка лапікавага шыцця — не проста вытанчаны від рукадзелля, у якім па прынцыпе мазаікі ствараецца цэльны твор з кавалачкаў розных па якасці тканіны. Гэта асобны від майстэрства, у якім фантазія і спрытнасць рук займаюць першае месца. Здзіўляе, што са звычайных, непатрэбных для пабытавага ўжывання рэштак матэрыі ствараецца эксклюзіўнае аўтарскае палатно, выкананае ў індывідуальнай стылістыцы, з новым каляровым афармленнем, узорамі і фактурай.

На выстаўцы экспануюцца непаўторныя кампазіцыі, якія ўражваюць не колькасцю дробязных дэталяў, а самабытнасцю, нестандартнасцю мастацкіх ідэй. Беларускія майстрыхі звяртаюцца да сюжэтаў роднага краю, іх прываблівае асяроддзе, мясцовая прырода: палявыя пейзажы, яркія кветкі і вобразнасць вячэрніх гарадоў. Латвійскае шыццё таксама падкрэслена сюжэтамі родных краявідаў, дзе ўражаны глядач у думках можа прагуляцца па Рыжскім узмор'і. Латвійцаў цікавіць і тэма традыцый Усходу, вобразнасць яго народаў і непадобнасць да культуры іншых краін. Праглядаючы мастацкія пано, дзівішся, наколькі гэта працаёмкі, карпатлівы працэс — камбінаваць мноства тканых матэрыялаў, сумяшчаць розныя тэхнікі шыцця і сучасныя віды апрацоўкі тканіны.



*Святлана Кузняцова «Гарадскія кветкі» (Беларусь).*

Выстаўка «Трыкатажныя куплеты — 2016» арганізавана ў выніку ўдзелу беларускіх аўтараў у разнастайных рэспубліканскіх, міжнародных конкурсах і творчых сустрэчах, дзе яны неаднаразова станавіліся пераможцамі. Прадстаўлены праект задуманы як дабрачынны.

Спачатку аматары мастацтва змогуць пазнаёміцца з кампазіцыямі творцаў у розных беларускіх гарадах. Пасля экспанаты перададуць у дзіцячыя дамы. На адкрыцці выстаўкі ўсіх зацікаўленых тэхнікай лапікавага шыцця беларускія майстрыхі запрасілі далучыцца да творчасці: кожны тыдзень ладзяцца сустрэчы ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

## Культурны ракурс




У Маскве, на Кутузаўскім праспекце, у Заходняй адміністратыўнай акрузе, усталяваны помнік беларускаму пісьменніку, паэту і драматургу Янку Купалу. Стварэнне помніка было прымеркавана да 125-годдзя з дня нараджэння творцы. Аўтары — беларускія скульптары народны мастак Беларусі Леў Гумілеўскі і яго сын Сяргей Гумілеўскі. Скульптура адліта з бронзы на камбінаце Беларускага саюза мастакоў. Працы фінансаваліся Саюзнай дзяржавай і ўрадам Масквы. Пісьменнік паказаны задуменным: з лістом папараці і кнігай ён абапіраецца на драўляную агароджу. На каменным пастаменце просты надпіс: «Янка Купала». Гэтае месца добра вядома маладому чалавеку з пасёлка Зялёны Бор Смалявіцкага раёна Канстанціну Дунаеву *(на здымку)*, які жыве і працуе ў Маскве пяты год. Сюды ён заўжды прывозіць сваіх сяброў і знаёмых, якія наведваюцца з родных мясцін.

**Таццяна ГУСЕВА,**
**бібліятэкар Зеленаборскай сельскай бібліятэкі Смалявіцкага раёна.**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 31.03.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1735.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1371

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686